№ 19 (904) 20 мая 2015 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Вяртанне да класікі

З гэтага нумара «Наша Ніва» пераходзіць на чорна-белы друк. Гэта вымушаны крок. Многія цяпер перайшлі на чытанне ў інтэрнэце, і мы прадаём менш асобнікаў газеты. Таму, каб захаваць выданне, трэба ашчаджаць. Чорна-белы друк істотна таннейшы.

У чорна-белым ёсць свая эстэтыка і свае патрабаванні жанру. У газеце зараз будзе менш фота, а больш тэкстаў. «Наша Ніва» паранейшаму будзе вострай і злабадзённай. І беларускай, патрыятычнай, якой была ва ўсе часы.

А да вас просьба ранейшая: падпісвайцеся самі, падпісвайце родных! Або купляйце газету ў кіёсках.

«Наша Ніва» выдаецца за Вашы грошы і без Вас не выжыве.

А Вы з «Нашай Нівай» будзеце мець у хаце ўсю праўдзівую інфармацыю.

**Як падпісацца — старонка 2.**

## Знік заснавальнік сайта 1863x.com

Смелы блогер не выходзіць на сувязь ад 4 мая. **Старонка 2.**

## «Напуганные, ошарашенные, жалкие»

Украінцы ў Луганскай вобласці захапілі ў палон двух дыверсантаў ГРУ Расіі. **Старонка 2.**

# «Хай з гэтага слана будзе муха, але, можа, хоць яна будзе свабодна лятаць»

Беларусь стала ўдзельнікам Балонскага працэсу авансам.

У чацвер 14 мая Беларусь перастала быць белай плямай на карце Балонскага працэсу і Еўрапейскай прасторы вышэйшай адукацыі (ЕПВА). Расія, Казахстан — усе ўдзельнічалі ў адзінай еўрапейскай адукацыйнай прасторы. Адна Беларусь была ў ізаляцыі. І вось нарэшце дэлегаты Канферэнцыі міністраў адукацыі краін ЕПВА і форум па Балонскай палітыцы на сустрэчы ў Ерэване прынялі рашэнне задаволіць заяўку Беларусі і далучыць краіну да агульнаеўрапейскай адукацыйнай прасторы.

### Што такое Балонскі працэс

Калі казаць проста, то Балонскі працэс аб'ядноўвае сістэмы вышэйшай адукацыі асобных краін у адзіную прастору. Ён атрымаў назву ад горада Балоння, што на поўначы Італіі. Там у 1999 годзе распачалі яго прадстаўнікі 29 еўрапейскіх краін. Цяпер тых краін ужо 48. Каб увайсці ў Балонскі працэс, сістэмы адукацыі ўніфікуюцца ў адпаведнасці з некалькімі асноўнымі патрабаваннямі.

Па-першае, гэта двухступенчатая сістэма адукацыі: бакалаўрыят і магістратура.

Па-другое, гэта Еўрапейская сістэма пераводу і накаплення балаў (ECTS), якая дазваляе ВНУ з лёгкасцю ацаніць асвоены студэнтам аб'ём ведаў, а студэнту — перавесціся ў іншую ВНУ (нават у іншай краіне) без доўгай валакіты ці залічыць стажыроўку.

Па-трэцяе, Балонскі працэс прадугледжвае выдачу супастаўных ступеняў, дадаткаў да дыпломаў, якія дакладна паведамляюць аб спецыялізацыі выпускніка. Гэта і ёсць тое самае «прызнанне дыпломаў»: адвучыўся ў Германіі — працуй па ўсёй Еўропе без дадатковай неабходнасці пацвярджаць сваю кваліфікацыю.

Балонскі працэс стварае ўмовы для мабільнасці студэнтаў і выкладчыкаў, гэта сапраўдная транснацыянальная сістэма адукацыі.

Важна таксама, што Балонскі працэс грунтуецца на дэмакратычных каштоўнасцях і патрабуе ад універсітэтаў паважаць акадэмічныя свабоды (свабоду слова, свабоду перакanання, свабоду навуковага пошуку). Патрабуецца і шырокі ўдзел студэнтаў і выкладчыкаў у кіраванні адукацыйнымі працэсамі.

### «Зрэзаліся» на акадэмічных свабодах

Спробу далучыцца да Балонскага працэсу Беларусь робіць не ўпершыню. У 2012 годзе наша краіна ўжо падавала заяўку на ўваход у Балонскі працэс, але атрымала адмову. «Зрэзаліся» тады на акадэмічных свабодах: Балонскі працэс патрабуе выбарнасці рэктараў, празрыстасці кіравання ВНУ, самакіравання студэнтаў, справаздачнасці рэктарата перад акадэмічнай супольнасцю. З гэтымі пунктамі ў нашай сістэме адукацыі вялікія праблемы.

ВНУ ў Беларусі цалкам падкантрольныя дзяржаве. Выбары рэктараў Аляксандр Лукашэнка адмяніў. Ён стаў прызначаць іх асабіста. Студэнты не маюць рэальнага ўплыву на адукацыйную палітыку сваёй alma mater, ролю студэнцкіх радаў выконваюць ячэйкі БРСМ — палітычнай структуры аднаго палітыка.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

На фота: студэнты Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта назіраюць за сонечным зацьменнем.

**Працяг на старонцы 3.**

Палітыка

## На саміт Усходняга партнёрства ад Беларусі можа паехаць Кабякоў

Ва ўрадзе Беларусі пакуль не пацвярджаюць удзел прэм'ер-міністра Андрэя Кабякова ў саміце Усходняга партнёрства у Рызе. Пра тое, што Беларусь на саміце будзе рэпрэзентаваць Кабякоў, паведаміла радыё «Свабода» са спасылкай на еўракамісара па пытаннях адносінаў з суседзямі Ёханеса Хана. Хан сказаў, што кіраўнік Беларусі Аляксандр Лукашэнка на саміт не прыедзе.

На пытанне інфармацыйнага агенцтва БелаПАН, ці плануе Андрэй Кабякоў удзельнічаць у саміце ў Рызе, прэс-сакратар прэм'ер-міністра Вольга Доўгая адказала: «У графіку Кабякова на гэтым тыдні такога мерапрыемства няма, але ўсё можа здарыцца».



Саміт Усходняга партнёрства пройдзе ў Рызе 21—22 мая. Афіцыйнай інфармацыі пра тое, хто будзе прадстаўляць на ім Беларусь, дагэтуль няма.

**СГ**

Меркаванне

## Алексіевіч: Беларусь можа выратавацца, толькі павярнуўшыся ў бок Еўропы

У цяперашняй сітуацыі ў свеце Беларусь можа выратавацца, павярнуўшыся ў бок Еўропы. Пра гэта заявіла ў інтэрв'ю БелаПАН заявіла пісьменніца Святлана Алексіевіч.

«Я чалавек рускай культуры, — сказала пісьменніца. — Я вельмі люблю яе, люблю рускую літаратуру. Але сёння ва ўсім гэтым вяршэнстве цемра і слепата, у якія пагрузіўся рускі народ. Калі б ён здолеў прозрэць, то ў гэтым было б наша выратаванне. Калі ж гэтага не адбудзецца, то, думаю, мы можам выратавацца, павярнуўшыся ў бок Еўропы».



**Працяг на старонцы 2.**

### У нумары

# МВФ заклікае ўлады Беларусі рэалізаваць смелую праграму рэформ

Міжнародны валютны фонд мяркуе, што карысць краіне прынясе лібералізацыя цэн, вывад тарыфаў на паслугі ЖКГ і транспарту на ўзровень поўнага пакрыцця затрат, адмена абавязковых мэтавых паказчыкаў для прадпрыемстваў і прыватызацыя.

Дырэктары фонду асобна падкрэслілі, што для абароны небагатых людзей трэба ўзмацніць сістэму сацыяльнай абароны.

Таксама прапануецца ўстрымацца ад павышэння зарплат. Гэта мае абмежаваць грашовую масу і знізіць сабекошт тавараў. А галоўнае — спыніць рост цэнаў і засцеражэ ад дэвальвацыі рубля, якая раз на пару гадоў з'ядае ашчаджэнні беларусаў.

Аднак мала шанцаў, што да такіх рэкамендацый прыслухаюцца. Для іх рэалізацыі трэба змяніць не толькі эканамічную, але і сацыяльную мадэль у краіне.

**Сяргей Гезгала**

# Знік заснавальнік сайта 1863x.com

Заснавальнік вострага сайта 1863x.com, які часам публікаваў смелыя расследаванні, другі тыдзень не з'яўляецца ў сеціве.

Персанаж, вядомы ў інтэрнэце як Jhon Silver, не выходзіць на сувязь з 4 мая. Гэтым жа днём датуецца ягоная апошняя публікацыя ў сацыяльнай сетцы Facebook.

Сайт вёўся ягоным заснавальнікам на ўмовах поўнай ананімнасці — ніхто не ведае ні ягонага сапраўднага імя, ні прозвішча, ні выгляду. Таму інтэрнэт з'яўляецца адзіным сродкам сувязі з ім. Праз яго ён трымаў сувязь з аўтарамі і даваў інтэрв'ю. Як паведамляюць крыніцы, блізкія да чалавека, вядомага як Jhon Silver, з 4 мая ён таксама не адказвае на асабістыя паведамленні ні ў адной з сацыяльных сетак. Ці ён быў затрыманы? Ці лёг на дно? У фэйсбуку выказваюць самыя трывожныя гіпотэзы.

**Зміцер Міцкевіч**

**Калі Вам нешта вядома пра знаходжанне заснавальніка сайта 1863x.com ці вы маеце сувязь з ім, просім Вас паведаміць пра гэта на nn@nn.by, скайп nashaniva, на (017) 284-73-29.**

# «Напуганные, ошарашенные, жалкие»

Украінцы ў Луганскай вобласці захапілі ў палон двух дыверсантаў **ГРУ Расіі**.





Здарылася гэта 16 мая пад горадам Шчасце. Пасля бою байцы ўкраінскага батальёна «Айдар» узялі ў палон двух расійскіх спецназаўцаў. Палонныя спачатку трапілі ў раённую бальніцу. Як напісаў у сацыяльных сетках луганскі доктар Рыгор Максімец, яны рухаліся на Шчасце з Луганска.

Адзін з дыверсантаў аказаўся сяржантам Аляксандрам Аляксандравым, другі — капітанам Яўгеніем Ерафеевым. У Шчасці сяржанту Аляксандраву на перабітую сцегнавую костку наклалі апарат знешняй фіксацыі. Пасля гэтага палонных вывезлі ў Кіеў.

Для ўкраінцаў гэта каштоўныя «знаходкі». Яны канечне паспрабуюць выменяць захопленых байцоў на палонную лётчыцу Надзею Саўчанку.

Міністр замежных спраў Украіны Павел Клімкін заявіў журналістам, што спецназаўцы апынуліся на тэрыторыі Украіны не з-за памылкі камандавання, а з мэтай здзейсніць тэрарыстычны акт на тэрыторыі Украіны.

«Іду з лякарні. Вось такія яны, прадстаўнікі легендарнага расійскага спецназа. Капітан Ерафееў і сяржант Аляксандраў. Спалоханыя, здзіўленыя, вартыя жалю і бездапаможныя», — напісаў у фэйсбуку прадстаўнік Службы бяспекі Украіны па сувязях са СМІ, былы дыпламат Маркіян Лубкіўскі. Са словаў Лубкіўскага, нагу сяржанту ўкраінскім хірургам удалося ўратаваць.

«Паспрабаваў датэлефанавацца да родных Аляксандрава — тэлефоны маўчаць», — сказаў Лубкіўскі.

У панядзелак прэс-сакратар прэзідэнта Расіі Дзмітрый Пяскоў заявіў, што Крэмль не мае намеру правяраць чуткі аб затрыманні расійскіх вайскоўцаў на Данбасе. «Неаднаразова гаварылася і намі, і Міністэрствам абароны, што ніякіх расійскіх вайскоўцаў у Данбасе няма», — сказаў Пяскоў.

Кіраўнік СБУ Валянцін Наліватайчанка заявіў, што затрыманых чакае крымінальная адказнасць за тэрарыстычную дзейнасць, цяпер з імі працуюць следчыя.

**Сяргей Мікулевіч**

## Алексіевіч: Беларусь можа выратавацца, толькі павярнуўшыся ў бок Еўропы

Працяг са старонкі 1.

У той жа час Алексіевіч звярнула ўвагу, чым абярнулася жаданне быць разам з Еўропай для ўкраінцаў, дзе «усё адбываецца трагічна».

Бяда беларусаў, паводле слоў пісьменніцы, заключаецца ў тым, што няма супольнай для ўсяго народа ідэі.

Сёння беларускае грамадства «хай ціхае і спакойнае, але падзеленае».

«Ёсць нейкая вялікая руская частка, ёсць нясмелая беларуская частка, якая ўсё ж вырасла за апошнія 20 гадоў, а ёсць людзі, якія жадаюць проста жыць, і шкада, што сярод такіх вельмі шмат маладых», — растлумачыла пісьменніца.

Маладым людзям, паводле яе слоў, здаецца, што «яны вышэй за ўсё, што адбываецца», што яны «ўвесь час будуць займацца сваімі ідэямі каля камп'ютара». Але пакуль беларусы «жывуць у досыць варварскі час, калі за свае ідэі трэба змагацца, ва ўсякім разе аказваць супраціўленне».

Цяперашняя ўлада, паводле меркавання пісьменніцы, сёння спрабуе знайсці нейкую аб'ядноўчую ідэю, а таксама вектар уласнага развіцця. Так, Алексіевіч станоўча ацаніла пазіцыю беларускіх улад, якую яны занялі ў дачыненні да Украіны. «Але мы вельмі маленькія побач з Расіяй, і ўвесь час існуе небяспека, што нас зацягне ў гэты вір», — падсумавала яна.

**Паводле БелаПАН**



## Сціслa

### Знайшлі экіпаж, які прывёз «Бук», што збіў MH17

Стаў вядомы маршрут расійскага «Бука», які збіў у 2014 годзе Boeing 777 паблізу Данецка. Журналісцкае расследаванне выявіла, што даставіў комплекс 2-гі аўтамабільны батальён 69-й брыгады Узброеных сіл Расіі. Удзельнічаў у аперацыі таксама 147-ы аўтамабільны батальён. Чатырох імаверных кіроўцаў, што перавозілі «Бук», вылічылі па фатаграфіях і статусах у сацыяльных сетках.

### Рускія зладзілі на цэнтральнай плошчы Мінска чарговы дрыфт

Дрыфт — гэта гоначная язда. А ў якасці арэны для яе расійскія турысты зноў выкарысталі знакавую Кастрычніцкую плошчу.

Каля пятай гадзіны ранку амонаўцы ўбачылі, што на плошчу заехаў аўтамабіль «Хёндэ» з расійскімі нумарамі. На вачах у ахоўнікаў парадку іншамарка ажыццявіла некалькі кругавых манеўраў. Міліцыянеры кінуліся да парушальнікаў спакою, але тыя пусціліся наўцёкі. Супрацоўнікі АМАП паспелі ўбачыць, што за рулём была дзяўчына, а ў якасці пасажыраў — яшчэ дзве дзяўчыны і хлопец.

Інфармацыя наконт гэтага была неадкладна перададзеная ў аператыўна-дзяжурную службу. На працягу паўгадзіны па прыкметах былі затрыманыя дзве дзяўчыны 23-х і 19-ці гадоў. Крыху пазней, на адной з аўтамабільных парковак, быў знойдзены і сам «Хёндэ». На затрыманых склалі адміністрацыйныя пратаколы за дробнае хуліганства і з'яўленне ў грамадскім месцы ў стане ап'янення.

Першы раз на Кастрычніцкай плошчы ў ноч з 10 на 11 студзеня вакол навагодняй ялін дрыфтавалі на «Шэўрале» — таксама расіяне.

**СГ**

## Апытанні на nn.by

### Ці будзеце Вы глядзець Еўрабачанне?

| | | |
|---|---|---|
| Так | 32 | 15% |
| Не | 150 | 71% |
| Сваякі будуць глядзець, таму і мне пападзецца на вочы | 28 | 13% |

Усяго прагаласавала 210.

## Самае чытанае на nn.by за 13 — 19 мая

1 «Беларускія казакі»: небяспечныя гульні
2 Беларусь прынята ў Балонскі працэс
3 Часопіс «Спецназ» пра беларускіх фанатаў: «Скрозь бандэраўшчына і русафобія»
4 Скандал у Польшчы: прэзідэнт карыстаецца паслугамі суфлёра-паліттэхнолага
5 Страшнае ДТП у Брэсце: на пешаходным пераходзе збітыя трое
6 З дваццаці ўзнагарод «кіраўніка нёманскіх казакоў» Адамава няма ніводнай баявой
7 На МТЗ да прыезду Лукашэнкі перафарбоўвалі люкі і колы трактараў
8 Журналісты знайшлі экіпаж, які прывёз расійскі «Бук», што збіў MH17
9 Расійскі «Тэлевізор»: «Ты прості нас, Украіна»
10 Эратычны часопіс Playboy прэзентаваў дзяўчыну года

# «Хай з гэтага слана будзе муха, але, можа, хоць яна будзе свабодна лятаць»

Працяг са старонкі 1.

Падсправаздачныя ВНУ толькі Мінадукацыі, не раз былі выпадкі пераследу навучэнцаў за палітычныя погляды, звальнення выкладчыкаў... Выглядае не вельмі па-еўрапейску, і тры гады таму Беларусі не дазволілі далучыцца.

### Узялі «авансам»

Аднак у 2015 годзе міністры адукацыі краін ЕПВА змянілі меркаванне і далі дабро на далучэнне Беларусі да Балонскага працэсу і ЕПВА. Нельга сказаць, што ў вышэйшай школе Беларусі ад 2012 года штосьці змянілася. Беларусь узялі ў Балонскі працэс з некаторымі ўмовамі па рэфармаванні сістэмы адукацыі, прапісанымі ў Дарожнай карце. Узялі «авансам» — і гэта ўнікальны выпадак у гісторыі Балонскага працэсу. Звычайна краіна прыводзіць сваю вышэйшую школу ў адпаведнасць еўрапейскім патрабаванням да ўступлення ў Балонскі працэс, а не наадварот.

## Яшчэ ў 2012-м пяць рэктараў беларускіх ВНУ былі ў спісе неўязных у ЕС за рэпрэсіі супраць студэнта

«Беларускі выпадак асаблівы. Ніколі раней прыём краіны не адкладалі на тры гады і нікому не адмаўлялі пры першай спробе ўступіць у ЕПВА, — кажа Уладзімір Дунаеў, былы прарэктар Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта і сябра Грамадскага Балонскага камітэта Беларусі. — Беларусь так упарта ігнаравала еўрапейскія акадэмічныя каштоўнасці, што ўзнікала пытанне: навошта ёй сяброўства ў ЕПВА? Праверка выканання гэтых патрабаванняў ЕПВА запланавана да наступнага міністэрскага саміту ў 2018», — тлумачыць Дунаеў.

### «Ва ўніверсітэце — татальны кантроль»

Пра неадпаведнасць беларускай вышэйшай адукацыі Балонскаму працэсу кажа і доктар гістарычных навук Святлана Куль, якая больш за 30 гадоў працавала ў Гродзенскім дзяржуніверсітэце, а пасля з ёй — доктарам навук, аўтаркай шматлікіх прац! — не прапягнулі кантракт.

«У Балонскай сістэме ёсць некалькі базавых прынцыпаў, сярод якіх, на маю думку, для нас найбольш істотныя чатыры. Гэта адпаведнасць прапанаванай адукацыі патрабаванням рынку працы; уніфікацыя навучальных праграм у межах Балонскага пагаднення; шырокая аўтаномія вышэйшай школы з актыўным удзелам выкладчыкаў і студэнтаў у кіраванні навучальным працэсам; свабода ўзаемадачыненняў паміж ВНУ розных краін. Ацэньваючы сённяшні стан айчыннай вышэйшай школы, няцяжка заўважыць яго неадпаведнасць большасці з гэтых крытэрыяў», — кажа Куль.

«Да патрабаванняў рынку працы ў нас у значнай ступені прыслухоўваюцца, — працягвае яна. — Уніфікаваць праграмы не будзе цяжка. Аднак у нас абсалютны правал з аўтаноміяй і свабодай узаемадачыненняў з замежнымі ВНУ. Калі ва ўніверсітэце існуе татальны кантроль за паездкамі выкладчыкаў, а паездкі за мяжу для ўдзелу ў навуковых форумах магчымыя толькі ў час адпачынку і за ўласны кошт, аб якой свабодзе можа ісці гаворка? А адміністрацыя прызначаецца, а не абіраецца, бо выбары — фарс», — лічыць Святлана Куль.



Міністр адукацыі Міхал Жураўкоў мае першае дасягненне.

Яна ўпэўненая, што Беларусь не здолее «дацягнуцца» да патрабаванняў ЕПВА пры ўладзе Лукашэнкі.

### Кроіць — не перакроіць

«Я не вельмі разумею, якія чынам усе гэтыя змены будуць зробленыя ў беларускай рэчаіснасці, — кажа культуролаг і прафесар Універсітэта культуры і мастацтва Юлія Чарняўская. — Як будзе рэалізавана сістэма крэдытаў, сістэма мабільнасці? Мяне засмучае і сітуацыя з гадзінамі, бо пад Балонскі працэс можна лёгка падвесці неабходнасць скарачаць навучальныя гадзіны.

Я за Балонскі працэс, але гэта ўсё мусіць быць падрыхтавана. Вядома, далучэнне Беларусі — палітычны жэст, які паказвае пацяпленне адносін з Еўропай, аднак сродкаў зрабіць паўнавартасны варыянт Балонскага працэсу ў Беларусі я пакуль не бачу».

Студэнты спадзяюцца, што Балонскі працэс дазволіць ім лягчэй падарожнічаць. Аднак яшчэ ў 2012 годзе старшыня Еўрапейскага студэнцкага прафсаюза Алан Пэлзаявіў: «На нашу думку, прыняцце Беларусі ў Балонскі працэс будзе выкарыстана толькі ў мэтах дзяржпрапаганды, а ў плане акадэмічных свабодаў для акадэмічнай супольнасці мала што зменіцца».

«У рашэнні ЕПВА прыняць Беларусь ёсць геапалітычны інтарэс», — адзначае Уладзімір Дунаеў.

А Святлана Куль іранізуе: «Тут не ў палітычнай кан'юктуры справа. Еўропа клапоціцца не пра нас, а пра сваіх дзяцей — ім жыць з беларусамі ў адным доме. Адназначна, Беларусь у Балонскім працэсе — на руку Еўропе. Хай з гэтага слана будзе муха, але, можа, хоць яна будзе свабодна лятаць».

**Кірыла Хілько**

# Іосіф Сярэдзіч: Рада бяспекі скарыстала ідэю «Народнай волі»

15 мая кіраўнік Рады бяспекі Аляксандр Мяжуеў выступіў ініцыятарам правядзення круглага стала на тэму грамадскай ініцыятывы. Адным з удзельнікаў быў галоўны рэдактар газеты «Народная воля» Іосіф Сярэдзіч. Ён падзяліўся сваімі ўражаннямі ад сустрэчы.

«Я хацеў бы заўважыць, што падчас прэс-канферэнцыі Аляксандра Лукашэнкі ў студзені сёлета «Народная воля» была ініцыятарам правядзення агульнанацыянальнага круглага стала па пытаннях бяспекі. Кіраўнік краіны добра паставіўся да гэтай ініцыятывы», — кажа Сярэдзіч.

Сапраўды, Аляксандр Лукашэнка на словы Сярэдзіча тады сказаў літаральна наступнае: «Давайце абмяркуем гэтыя пытанні. Па факце мы ўбачым, на што здольныя тыя людзі, якія прыйдуць абмяркоўваць пытанні бяспекі. Спецыялістаў дашлем, Мяжуеў прыедзе. Дзяржсакратар да вас прыедзе, ён у мяне галоўны памочнік па пытаннях бяспекі. Найвышэйшая службовая асоба, вышэй няма куды. Гэта пытанне не ўрада... Ён прыедзе, калі трэба абмеркаваць, і мне дакладзе. Ёсць там нешта, што можна выціснуць з гэтай размовы, — будзем абмяркоўваць. Я нічога не адкідаю. І я не хачу сказаць, што Беларусь — гэта больш мая зямля, чым ваша. Гэта наша зямля. У нас іншай няма. У нас розныя погляды «на тыя ці іншыя працэсы», аднак зямля гэтая наша. Яна агульная, яна адзіная, і мы павінны яе абараняць. Так, можна дзесьці «тузаць адзін аднаго», можна нават дзесьці морду адзін аднаму пабіць. Але калі ёсць час для гэтага, каб «тузацца». А калі бяда каля парога, як вы гэта бачыце, тады «тузацца» не трэба. Тады трэба аб'ядноўвацца для таго, каб абараніць сваю зямлю. І вы правільна сказалі: нам цяпер канфрантацыя не патрэбна».



Іосіф Сярэдзіч кажа, што «Народная воля» звярталася да многіх апазіцыйных палітыкаў з прапановай удзелу ў круглым стале, але амаль ніхто не пагадзіўся. Яны паставіліся да ініцыятывы паблажліва. Маўляў, несур'ёзна гэта ўсё.

«Фактычна Рада бяспекі скарысталася нашай прапановай, перахапіла ініцыятыву», — кажа рэдактар «Народнай волі».

Мадэратарам сустрэчы быў галоўны рэдактар «Советской Белоруссии» Павел Якубовіч. Прысутнічалі Вадзім Гігін, Сяргей Кізіма. Сам Мяжуеў больш слухаў, чым гаварыў сам.

«Я казаў, што сёння пасля Майдану і пазнейшых падзей ва Украіне нам важная кансалідацыя грамадства, — кажа Сярэдзіч. — Я казаў, што сёння нельга ўзмацняць рэпрэсіі, нельга рабіць наступ на незалежныя СМІ. Паглядзім, што ў друкаванай версіі пакінуць з маіх словаў».

Ці знаходзілі словы Сярэдзіча водгук у суразмоўцаў? «Апаненты на тое і апаненты, каб спрачацца», — кажа Сярэдзіч.

Рэдактар «Народнай волі» адзначае, што яшчэ не развітаўся з ідэяй іншага круглага стала па пытаннях бяспекі, але, мабыць, на гэты раз нельга будзе казаць «агульнанацыянальны», найхутчэй, што ён будзе «ўнутрырэдакцыйны».

**Зміцер Панкавец**

# З дваццаці ўзнагарод «кіраўніка нёманскіх казакоў» Адамава няма ніводнай баявой

«Дзіўны, **вельмі дзіўны набор** медалёў», — каментуе маёр запасу Зміцер Захарэвіч.

Іканастас медалёў кіраўніка «Нёманскага казацтва» Уладзіміра Адамава прыцягвае ўвагу. Што за адзнакі блішчаць на сінім мундзіры з залатымі гузікамі з выявамі двухгаловага арла? Дзе малады яшчэ мужчына іх заслужыў?

Як даведаўся карэспандэнт «Нашай Нівы», Адамаў кіруе прарасійскай казацкай структурай і арганізуе фестывалі славянскіх адзінаборстваў у Гродне.

Мы паспрабавалі ідэнтыфікаваць узнагароды Адамава і атрымалі такую карціну (на фота медалі пазначаныя нумарамі):






1. Пародыя на Георгіеўскі крыж, найхутчэй, казацкае выкананне.
2. Медаль «90 гадоў Савецкай арміі», Кампартыя Расіі. Выглядам паўтарае савецкі ордэн Чырвонага Сцяга.
3. Юбілейны медаль «20 гадоў выводу савецкіх войскаў з Афганістана».
4. Юбілейны медаль «60 гадоў перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945».
5. Медаль «За заслугі», Беларускі саюз ветэранаў вайны ў Афганістане.
6. Юбілейны медаль «65 гадоў вызвалення Рэспублікі Беларусь ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў».
7. Медаль «За вернасць баявому таварыству», асацыяцыя «Афганцы Чарнобыля», Украіна.
8. Медаль «Атаман Ярмак», Сібірскае Казацкае войска, Расія.
9. Медаль «Служыць і абараняць», фізкультурна-спартовае таварыства «Дынама».
10. Медаль «20 гадоў Беларускага саюза афіцэраў».
11. Медаль Беларускага славянскага камітэта.
12. Медаль «За заслугі», Беларускі саюз ветэранаў вайны ў Афганістане (?).
13. Юбілейны медаль «70 год вызвалення Рэспублікі Беларусь ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў».
14. Медаль «Афганістан. 25 гадоў».
15. Знак «20 гадоў Беларускаму саюзу ветэранаў вайны ў Афганістане».
16. Знак «Выдатнік ВПС».
17. Армейскі знак «Гвардыя», СССР.
18. Спартовы знак.
19. Знак «Військо запорозьке низове», Украіна.
20. Знак «Беларускі саюз афіцэраў».

Як мы бачым, большасць медалёў альбо беларускія юбілейныя, альбо выдадзеныя Саюзам афіцэраў ды Беларускім саюзам ветэранаў-афганцаў. Асобная катэгорыя — знакі і медалі казацкіх таварыстваў, якія не адпавядаюць аніякім нормам, штампуюцца і выдаюцца ў неабмежаваных колькасцях. Сярод казакоў знакам добрага тону даўно стала ўзнагароджваць адзін аднаго псеўдакрыжамі ды медалямі. Аніводнага баявога медаля мы не бачым...

Мы спыталіся ў маёра запасу органаў памежнай службы Змітра Захарэвіча, у каго з вайскоўцаў можа быць такі набор медалёў.

«Гэта не афіцэр, — сказаў Захарэвіч. — Афіцэры «Отличником ВВС» не ўзнагароджваліся, не «чарнобылец»... Саюзы афіцэраў і «афганцаў» — гэта арганізацыі пэўнай накіраванасці. Але наконт "афганскіх" узнагарод у мяне вялікія-вялікія сумневы...

Я не бачу ў гэтага чалавека ўзнагарод, якія выдаваліся сапраўдным «афганцам» па вывадзе з Дэмакратычнай Рэспублікі Афганістан. Са мной служылі «прапары», якія былі ў ДРА падчас тэрміновай службы. Ва ўсіх ёсць узнагароды «Воину-интернационалисту» і «От благодарного афганского народа». Гэта стандартныя ўзнагароды, якія даваліся абсалютна ўсім.

Гэты ж чалавек вярнуўся са знакамі «Гвардия» і «Отличник ВВС», але кім ён быў у ВПС? Знакаў за скачкі з парашутам у яго не бачу... можа, кіроўцам якім? Дзіўны, вельмі дзіўны набор медалёў», — падсумоўвае Зміцер Захарэвіч.

**Алесь Кіркевіч**

Цытата



**Ермакова: Пабудавала дом пад Мінскам, раніцай раскідвала гной**

«Я ўдзячная Аляксандру Рыгоравічу, што своечасова мяне вызваліў (ад пасады). Я сама б пасаромелася прасіцца», — прызналася экс-кіраўнік Нацбанка Надзея Ермакова.

Як высвятляецца, у вольны час былы галоўны банкір краіны займаецца прысядзібнай гаспадаркай.

«Пабудавала дом пад Мінскам, раніцай раскідвала гной, а заўтра пачну зямлю перакопваць, каб пасадзіць градкі. Парнічок раблю невялікі. Раней не было часу гэтым займацца і не было зямлі», — адзначыла экс-кіраўнік Нацбанка ў інтэрв'ю kp.by.

# ААН абавязала ўрад Беларусі зарэгістраваць аб'яднанне «За справядлівыя выбары»

Але ж ці прыслухаюцца?

Камітэт ААН па правах чалавека прызнаў, што беларуская дзяржава не павінна адмаўляць у рэгістрацыі ГА «За справядлівыя выбары».

«Рашэнне камітэтам ААН было прынята яшчэ ўвосені, цяпер мы атрымалі яго афіцыйны пераклад на расійскай мове», — удакладняе праваабаронца з Гомеля **Леанід Судаленка (на фота)**, які прадстаўляў інтарэсы ГА «За справядлівыя выбары».



Гэта першае рашэнне па Беларусі, у якім камітэт пералічыў усе 22 прозвішчы заснавальнікаў гэтага грамадскага аб'яднання, падкрэслівае Судаленка.

Паводле рашэння камітэта ААН беларускі ўрад павінен пераглядзець адмову ў рэгістрацыі ГА «За справядлівыя выбары». Акрамя таго, ён павінен не дапускаць падобных выпадкаў у будучыні. Само рашэнне трэба апублікаваць у рэспубліканскіх СМІ як на расейскай, так і на беларускай мовах. На працягу шасці месяцаў яно павінна быць выканана, а ў ААН павінна быць накіравана справаздача аб выкананні. Такія патрабаванні.

«Канечне, урад Беларусі не спяшаецца выконваць не толькі гэтае, але і іншыя рашэнні, але калі беларуская чыноўнікі кажуць, што гэтае рашэнне носіць рэкамендацыйны характар, то яны кажуць, што і беларуская Канстытуцыя носіць рэкамендацыйны характар. Падкрэсліваю, што 61 артыкул Канстытуцыі Беларусі гарантуе кожнага беларуса правам звяртацца ў міжнародныя арганізацыі для абароны сваіх правоў», — кажа Леанід Судаленка.

Нагадаем, у 2010 годзе 14 палітычных аб'яднанняў (хрысціянскія дэмакраты, Аб'яднаная грамадзянская партыя Анатоля Лябедзькі, партыя «Справядлівы свет», зялёныя ды іншыя) вырашылі зарэгістраваць ГА «За справядлівыя выбары». Адным з каардынатараў праекта быў апазіцыйны камуніст Сяргей Калякін. Ад імя яго і была зарэгістравана скарга ў ААН.

Грамадскае аб'яднанне «За справядлівыя выбары» планавала накіраваць сваіх назіральнікаў на выбарчыя ўчасткі падчас прэзідэнцкай кампаніі 2010 года, каб кантраляваць людзей Ярмошынай і працэдзейнічаць фальсіфікацыям. Аднак аб'яднанне не зарэгістравалі. Заснавальнікі дайшлі да Вярхоўнага суда Беларусі. А калі і там праўды не дабіліся, звярнуліся ў камітэт ААН па правах чалавека.

Рашэнні камітэта ААН не носяць абавязковага характару, аднак жа сімвалічна важныя.

**Уладзіслаў Швядовіч**

# 57-гадовы кіраўнік «Саюза беларускай моладзі Віленшчыны» падтрымаў Лукашэнку

Газета Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі «Советская Белоруссия» ў нумары ад 14 мая надрукавала паласное інтэрв'ю з Валерыем Савянковым, якога гучна прэзентавалі як «кіраўніка Саюза беларускай моладзі Віленшчыны».

«Беларусь захавала сваю незалежнасць. Гэта стала настолькі відавочна! Мы з Літвы бачым: у Мінску моцны лідар, ён ужо патрыярх, ён выстаяўся ў сваёй палітыцы, ніякіх рэзкіх рухаў цела, усё, што ні кажа, усё настолькі ўзважана і лагічна. Самае цікавае, што беларускі прэзідэнт умее стварыць прымальныя адносіны і з Пуціным, і з Назарбаевым, і з усімі астатнімі. Так, у вас стабільны рух без рэзкіх скокаў», — хваліць Савянкоў.



А чым жа займаецца ў Літве гэты дзеяч? «Я ў літоўскіх судах проста жыву. Правёў да 100 справаў, калі агулам падлічыць».

Сапраўды, у 1999 годзе Валерый Савянкоў быў асуджаны за крадзеж і незаконнае захоўванне зброі.

У прыватнасці, ён скраў з мэрыі Вільні гістарычны сцяг горада работы Фердынанда Рушчыца з мэтай прадаць яго пасля. Ён прабыў у зняволенні 5 гадоў і 10 месяцаў.

Дарэчы, будучы ў турме, Савянкоў звярнуўся ў суд, бо лічыў, што яго ўтрымлівалі ў нялюдскіх умовах: ён знаходзіўся ў камеры, дзе сусед курыў, не было туалетнай паперы, а замест яе прыходзілася карыстацца старымі газетамі, а прыбіральні не гарантавалі канфідэнцыйнасці зняволеных.

Страсбургскі суд стаў на бок Савянкова, абавязаўшы літоўскую дзяржаву сплаціць былому зняволенаму 5 тысяч еўра, хаця сам пазоўнік патрабаваў 2 мільёны еўра.

Валерый Савянкоў у сваіх інтэрв'ю прызнаваўся, што раней сядзеў у турме і ў СССР, і ў Беларусі.

Яму 57 гадоў, але нават у такім паважным узросце працягвае ўзначальваць арганізацыю «Саюз беларускай моладзі Віленшчыны». Цікава, да якога ўзросту можна лічыцца моладзевым лідарам?

Узнікае пытанне, няўжо «Советская Белоруссия» не можа знайсці іншых прапагандыстаў сённяшняга ладу, што гатовая даваць слова такім асобам?

**Зміцер Панкавец**

# IIHF пакарае Федэрацыю хакея Расіі за сыход гульцоў падчас выканання гімна Канады

Хакеісты Расіі праявілі непавагу да канадскай каманды пасля фіналу чэмпіянату свету. Пра гэта заявіў прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі хакея (IIHF) Рэнэ Фазель.

Па завяршэнні матча перад выкананнем гімна Канады ў гонар перамогі каманды на сусветным першынстве большая частка хакеістаў расійскай каманды сышла з пляцоўкі. Зорка расійскай каманды Аляксандр Авечкін спрабаваў спыніць партнёраў, але марна.

«Па вяртанні з чэмпіянату свету мы абмяркуем гэтае пытанне, звяжамся і з кіраўніцтвам Федэрацыі хакея Расіі. У IIHF ёсць рэгламент, і пэўнае пакаранне дакладна будзе вынесена», — сказаў Фазель.

«Калі я гэта ўбачыў, то моцна засмуціўся, — сказаў прэзідэнт IIHF. — За 29 чэмпіянатаў свету, на якіх мне давялося прысутнічаць, гэта першы такі выпадак. Тое, што зрабіла расійская каманда, абсалютна непрымальна. На лёдзе падчас гульні могуць адбывацца любыя падзеі — сутыкненні, бойкі. Але адсутнасць павагі да суперніка пасля матча нічога не вартая».

Акрамя Авечкіна, на пляцоўцы засталіся яшчэ Яўген Малкін, Віктар Ціханаў, Дзмітрый Кулікоў.

«Я бачыў, што Авечкін і Малкін спрабавалі спыніць астатніх гульцоў, што рванулі ў раздзявалку. У гэтым выпадку нельга вешаць віну на саміх хакеістаў. У зборнай ёсць кіраўніцтва — галоўны трэнер і генеральны менеджар, якія павінны былі знаходзіцца на лёдзе ў гэты момант і прадухіліць такую сітуацыю», — адзначыў функцыянер.

«У нядзелю я ўбачыў тое, пра што і падумаць не мог. Падобныя паводзіны, як пасля цяперашняга фіналу, шкодзяць і Расіі, і хакею, і ўсім тым, хто мае дачыненне да нашай любімай гульні», — сказаў кіраўнік IIHF.

**Сяргей Мікулевіч**

Беларуская зборная заняла на чэмпіянаце 7-е месца. Чэмпіянат запомніцца беларусам перамогай над амерыканцамі 5:2 і бязвольнай здачай матчаў Расіі 0:7 і Канадзе 0:9.



**Канадцы трыумфуюць. У фінале хакейнага чэмпіянату яны перамаглі Расію з лікам 6:1. Галкіпер Майк Сміт (на фота) катаў на плячах сваіх дзяцей, апранутых амаль як тата. Фота Сяргея Грыца, Facebook.com.**

## Радзькоў пайшоў у адстаўку «па стане здароўя»



Аляксандр Лукашэнка вызваліў Аляксандра Радзькова ад пасады памочніка прэзідэнта па стане здароўя. Адпаведнае распараджэнне кіраўнік дзяржавы падпісаў 18 мая.

Доўга 64-гадовы Радзькоў служыў рэжыму. Ён амаль зямляк Аляксандра Лукашэнкі — нарадзіўся ў вёсцы Вотня (Быхаўскі раён). Вучыўся паралельна з Аляксандрам Рыгоравічам у Магілёўскім педінстытуце. А калі «пед» стаў універсітэтам, пры Лукашэнку, у 2001, стаў яго рэктарам. Хутка пайшоў на павышэнне ў Мінск і да 2010 года быў міністрам адукацыі. Адзначыўся пераводам выкладання гісторыі і геаграфіі Беларусі на рускую мову. Кіраваў ініцыятыўнай групай Лукашэнкі на прэзідэнцкіх выбарах — 2010. Пасля таго 2010-га ўзнёсся на самыя вярхі — стаў першым намеснікам кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта, пасля — памочнікам прэзідэнта.

Менавіта ў абавязкі Радзькова ўваходзілі азнаямленне Лукашэнкі з навінамі, падрыхтоўка сустрэч і тэлефонных размоваў.

«Калі няма канселядацыі, няма адзінага нацыянальнага лідара, то, як паказвае сітуацыя ў суседняй краіне, можа быць вайна», — заявіў Радзькоў на з'ездзе «Белай Русі» ў лістападзе 2014 года. Можа быць, гэты гадаванец Магілёўскага педінстытута шчыра так думаў. Але немцы, палякі і шведы так не думаюць. І нічога — жывуць.

**Сяргей Гезгала**

**Фотафакт**




**На мінулым тыдні Аляксандр Лукашэнка наведаў Мінскі трактарны завод. Напярэдадні яго візіту на заводзе і вакол яго на пацеху жыхарам сталіцы аўральна прыбіралі. Фарбавалі нават люкі і колы трактароў.**

## Мінюст «узяўся» за TUT.BY

«Мінюст звярнуў увагу «ТУТ БАЙ МЕДЫЯ» на парушэнне заканадаўства», — напісала «Советская Белоруссия» 19 мая. Такая фармулёўка была ўспрынятая некаторымі як папярэджанне парталу Tut.by. На самай справе «Тутбаю» ў гэтым выпадку нічога не пагражае, растлумачыла «Нашай Ніве» юрыст Людміла Чэкіна.

Міністэрства юстыцыі накіравала ліст партнёрам Tut.by, ТАА «Блінгбай», што арандуе ў «ТУТ БАЙ МЕДЫЯ» дамен трэцяга ўзроўню (realty.tut.by/bezagentov), копію ліста атрымалі і на Tut.by. Кампанія «Блінгбай» прадстаўляла на realt.tut.by сэрвіс прыватных абвестак па здачы кватэр у арэнду, аналагічны сэрвісу на сайце bling.by.

«У лісце гаварылася, што дзейнасць па прадстаўленні інфармацыйных паслуг, што тычацца арэнды нерухомасці, можа лічыцца рыэлтарскімі паслугамі, — растлумачвае юрыст. — Азначэнне рыэлтарскай дзейнасці ў нас вельмі шырокае, яно ўключае збор і прадстаўленне інфармацыі па попыце і прапанове на рынку нерухомасці. З такой трактоўкай ні мы, ні нашыя партнёры не згодныя цалкам. Будзем праводзіць дадатковыя кансультацыі, рабіць запыт у той жа Мінюст».

На сёння «Блінгбай» прыпыніў аказанне «спрэчных» платных паслуг. Супраца з «Блінгбай» — партнёрскі праект «ТУТ БАЙ МЕДЫЯ», але «Блінгбай» — асобная арганізацыя. Закрыццё, забарона ці штраф не пагражаюць «Тутбаю».

«Ліст складзены ў такой... скажам так, дапушчальнай форме, — тлумачыць Чэкіна. — Не зусім зразумела, што ў сайце прыватных абвестак, інфармацыю на які дадаюць самі карыстальнікі і яны ж непасрэдна заключаюць пагадненне з патэнцыйным арандатарам, можа разглядацца як пасрэдніцкая дзейнасць. Рэсурсаў, прысвечаных нерухомасці, у сеціве даволі шмат, у тым ліку тых, што аказваюць платныя паслугі. І ніхто з іх, наколькі нам вядома, такіх папярэджанняў пакуль не атрымліваў».

Практычна адначасова з навіной пра ліст да «ТУТ БАЙ МЕДЫЯ» з'явіліся навіны пра атрыманне шэрагам інтэрнэт-сайтаў лістоў з Мініфарма. Сярод атрымальнікаў сайт Аб'яднанай грамадзянскай партыі, радыё «Рацыя», музычны партал Tuzin.fm, культурны часопіс Kyky.org. Шум выклікаў той факт, што лісты прыйшлі нават у замежныя СМІ. Напрыклад, «Рацыю» робяць беларусы Беласточчыны.

У лістах гаварылася аб выяўленні на сайтах парушэнняў заканадаўства пра СМІ. З тэксту лістоў магло падацца, што сайтам як СМІ вынесенае пісьмовае папярэджанне (а пасля двух папярэджанняў за год СМІ закрываюць) за распаўсюд непраўдзівай інфармацыі. Але, як патлумачылі ў Мініфарме, лісты проста інфармавалі аб недапушчальнасці парушэнняў заканадаўства. Прычыны таго, чаму лісты былі высланыя менавіта гэтым рэсурсам, Мініфарм не назваў.

**Аляксандр Арсёнаў**

## Сціслa

### Кыргызстан вяртае ў Мінск пасла

19 мая на пасяджэнні Камітэта па міжнародных справах была ўхвалена кандыдатура Кубанычбека Амураліева на прызначэнне Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Кыргызскай Рэспублікі ў Рэспубліку Беларусь. МЗС Кыргызстана, нагадаем, адклікаў свайго пасла з Беларусі ў жніўні 2012 года ў адказ на адмову афіцыйнага Мінска экстрадзіраваць на радзіму брата зрынутага прэзідэнта Бакіева — Жаныбека.

### Расія і Беларусь створаць зенітна-ракетны комплекс

Канструктарскае бюро дакладнага машынабудавання імя Нудэльмана (КБточмаш, уваходзіць у «Растэх») возьме ўдзел у распрацоўцы сумесна з Беларуссю новага зенітнага ракетнага комплексу блізкага радыуса дзеяння. Пра гэта ў інтэрв'ю ria.ru распавёў кіраўнік дырэктар КБточмаш Уладзімір Слабодчыкаў. Працы плануецца пачаць ужо з наступнага года.

**СМ, БелаПАН**

# Кампанія «Лазер Графікс» адмовіла чалавеку ў вырабе шыльды «Жыве беларус»



«Я просты мужык-беларус. Жыву і працую ў райцэнтры Лёзна. Нарадзіўся я ў вёсцы Замшына гэтага ж раёна, — напісаў у «Нашу Ніву» чытач газеты Уладзімір Собалеў і вось што ён расказаў пра сябе: — Амаль усё дзяцінства маё прайшло ў лесе, які пачынаўся за агародамі нашай вуліцы, таму, відаць, я так люблю прыроду і неабыякава адношуся да балючых пытанняў экалогіі.

Падчас службы ў войску я добра засвоіў што такое дысцыпліна і справядлівасць. Наш камбат, палкоўнік Ячмянёў Васіль Кірылавіч, поўнасцю зліквідаваў у нашай вайсковай частцы, такое паняцце як «дзедаўшчына». Ён, літаральна, мог зняць з сябе апошнюю кашулю, прадаць яе, але ягоныя падначаленыя заўсёды будуць сыта пакормлены, у адпаведнасці з надвор'ем па форме апрануты, будуць мець добрую вайсковую падрыхтоўку. Камбат быў вельмі строгі, але справядлівы. Яго баяліся нават афіцэры.

Па палітычнай частцы мяне добра «падкаваў» падпалкоўнік Бяляцкі Васіль Пятровіч.

Усё гэта, разам і паасобку, добра паўплывала на маё выхаванне і мае погляды. Каб быць прыкладам для іншых людзей, я, у свой час, стаў камуністам. Але калі, з цягам часу, разабраўся, што за самаадданасцю мільёнаў простых камуністаў хаваецца кагорта прайдзісветаў, то падаў заяву аб выхадзе з КПСС.

Не мог я заставацца ў баку і ад спраў па навядзенні правапарадку ў грамадстве. Спачатку быў простым дружыннікам, потым дружыннікам-аўтаінспектарам; потым і камандзірам сваёй дружыны. Калі працаваў у камунальнай гаспадарцы, то скалаціў дружыну з дэбашыраў і п'яніц, бо ўжо наўрад ці нават адзін дружыннік, які калісці сядзеў у турме. Такой дружыны больш ніхто і ніколі не створыць. А калі ў канцы года падводзілі вынікі прац дружын раёна, мая дружына заняла першае месца. Вось вам і дэбашыры.

Я люблю тое месца, дзе я зараз жыву. Даглядаю свой дом. Хоць і старэнькая хата, год перабудовы 1948, але амаль кожны жыхар райцэнтра ведае маю хату, добра ўпрыгожаную разьбой па дрэве. Сачу за парадкам не толькі ў сваім двары, але і на вуліцы, і на рачулцы, якая працякае непадалёк.

Засмучае толькі тое, што сучасныя людзі, у тым ліку і шматлікія перасяленцы, абыякава ставяцца да добраўпарадкавання таго асяроддзя, у якім яны жывуць.

І вось для таго, каб пазначыць тую акалічнасць, што этнічныя беларусы ў большасці сваёй добрасумленныя людзі (да якіх адношуся і я), я заказаў для сябе ў мінскай фірме «ААТ Лазер Графікс» праз прадстаўніцу ў Віцебску невялічкую шыльдачку са словамі «Жыве беларус» (18 см х 82 см), якую хацеў бы павесіць у сваім двары. Але юрысты гэтай фірмы не дазволілі выраб такой шыльды. Па той прычыне, што я наперад (па-іншаму яны не працуюць) поўнасцю заплаціў грошы за выраб (157 тысяч рублёў, касавы квіток №248135, ад 04/05/2015), мне было прапанавана заказаць шыльдачку з іншым тэкстам.

Я хачу запытацца ў прэзідэнта: чаму я, этнічны беларус, не магу называць сябе беларусам на радзіме сваіх продкаў?

Калі я не атрымаю адказу на гэта пытанне, то на маючых адбыцца выбары прэзідэнта не пайду! Атрымліваецца так, што пры існуючай уладзе я «БАН» (без адпаведнай нацыянальнасці)», — з горыччу напісаў нам Уладзімір Собалеў.

«Наша Ніва» стала разбірацца. Патэлефанавалі ў «Лазер Графікс». Там успомнілі такога заказчыка з Лёзна, а адмову патлумачылі вось як: «Не працуе цяпер абсталяванне, таму і не робяць таблічак», — сказалі спачатку. Але на наступны дзень звязаліся яшчэ раз і адказалі ўжо інакш: «У арганізацыі пакуль не было вытворчай магчымасці зрабіць такую таблічку, не было матэрыялаў. Мы былі на картатэцы і не маглі закупіць іх. Таму мы можам або вярнуць грошы, або яму трэба пачакаць неакрэсленыя перыяд часу», — патлумачыла начальніца аддзела продажаў віцебскага офіса арганізацыі Таццяна Смалей.

«Дык калі вы зможаце вырабіць гэтую таблічку?» — запыталіся мы.

«Мы пакуль не можам гэта сказаць», — ухіліліся ад адказу ў «Лазер Графікс».

«Яны падманваюць! — абураецца Уладзімір Собалеў. — Яны мне адкрыта казалі, што ўзгаднялі тэкст шыльды ў Мінску, у галоўным офісе, і тыя не далі згоды. Я заказваў таблічку, каб з аднаго боку было напісана «Удачы», а з другога — «Жыве беларус», то яны пагаджаліся вырабіць «Удачы», а «Жыве беларус» — не».

Сапраўды, апраўданні «Лазер Графікс» шытыя белымі ніткамі.

Мы патэлефанавалі ў розныя офісы кампаніі і запыталіся, ці можна вырабіць таблічку з назвай кампаніі ў аналагічным выкананні. Усюды была такая магчымасць — робяць за два-тры дні.

Собалеў мяркуе, што ў кіраўніцтве кампаніі «Лазер Графікс» сядзіць нейкі беларусафоб, і гэтым тлумачыцца ўся гэтая сітуацыя.

**Мікола Бугай**

# Часопіс «Спецназ» звінаваціў беларускіх фанатаў у «бандэраўшчыне і русафобіі»

Рэдакцыя вайсковага часопіса дае слова расейскаму баевіку, а беларусаў вінаваціць у неанацызме.

На чатырох старонках артыкула аўтар спачатку малюе агульную карціну «фанацкіх раскладаў» у Расіі, а затым пераключаецца на Беларусь. Асноўны пасыл наступны: кіеўскі Майдан пагоршыў фанацкі рух, паспрыяў яго радыкалізацыі ды звалоцы ў бок нацызму, Расія і Украіна гэта адчулі найбольш, але і Беларусь не адстае.

Цікава, каго аўтар артыкула Андрэй Дземяньцеўскі цытуе ў якасці эксперта: гэта Іван Катанаеў, былы лідар «Фратрыі», фанацкага аб'яднання «Спартака». Катанаеў тлумачыць, што экстрэмісты сярод фанаў — гэта невялікая група нацыстаў і неапаганцаў, якія выступаюць... супраць далучэння Крыма да Расіі. Адказ на пытанне «Хто такі Катанаеў?» даюць фота з ягонай старонкі «Укантакце»: хлопец ваяваў на баку ДНР на ўсходзе Украіны і не хавае імперскіх поглядаў. Які з яго эксперт і чаму менавіта ён?..

Сярод беларускіх фанатаў найбольш у артыкуле дастаецца ультрасам «БАТЭ» і мінскага «Дынама». Тут і «лозунги УПА на Борисов-Арене», і «нацистская симолика», і «нецензурные речевки в адрес президента РФ», і «выломанные сидения на стадионах» — усё да кучы. Асобна ўзгадваецца былы фанат «Дынама» Арцём, які цяпер ваюе ў складзе ўкраінскага батальёна «Азоў»: маўляў, вось да чаго ўсё ідзе...

Аўтар акуратна падводзіць да таго, што трэба шукаць залатую сярэдзіну ў адносінах да ультрас: паміж рэпрэсіямі і ўсёдазволенасцю. Зразумела, бо дзяржава, якая зрабіла спорт адной з нацыянальных ідэй, не можа наўпрост абсекчы фанацкі рух. І тут у тэксце з'яўляецца падзел на «буйных» і «не буйных» фанатаў — такая сабе падказка сілавікам, як дзейнічаць на стадыёнах і не толькі.




**«Спецназ»**

Заснавальнікам часопіса з'яўляецца рэдакцыя газеты «СБ. Беларусь сегодня». Асноўная мэтавая аўдыторыя — часці міліцэйскага і вайсковага спецназу. Разам з «Белорусской военной газетой», «Зарубежным военным обозрением», «Планетой», «СБ» часопіс трапляе і ў агульнавайсковыя часткі. У афіцэрскім асяродку пэўнай папулярнасцю і аўтарытэтам такая прэса карыстаецца.

У гэтым жа рэчышчы Дземяньцеўскі прапаноўвае міліцыі ды афіцыйным моладзевым арганізацыям падумаць, чым заняць фанатаў, каб «дурь в голову не лезла». А самім фанатам раіць хутчэй вылазіць з «коричневого болота»: «Зрелые, по-настоящему образованные, рассудительные люди вам помогут... напомнят и историю, и географию».

Беларускі фанрух разглядаецца ўладамі як патэнцыйны каталізатар вулічных закалотаў. Спецназ адпрацоўвае сцэнары беспарадкаў з удзелам «фанатаў», а саміх «хулаў» усё часцей прэвентыўна затрымліваюць напярэдадні важных візітаў альбо нават матчаў. Пры гэтым шквальнай інфармацыйнай кампаніі супраць беларускіх «ультрас» пакуль няма, артыкул у «Спецназе» — адна з першых ластавак.

**АК**

**Дземянцэўскі: ДНР, ЛНР — я не ў курсе гэтых раскладаў**

Сп. Дземяньцеўскі ў каментары «НН» адразу адхрысціўся ад Катанаева, адзначыўшы, што не ведаў пра яго датычнасць да ўзброеных фармаванняў «ДНР». Ён дадаў, што сам з Катанаевым не гаварыў, узяў яго словы з сайта «Свободная пресса». Гэта расійскі партал, які вядзе антыўкраінскую прапаганду.

І хоць Андрэй Дземяньцеўскі карыстаецца матэрыяламі сумнёўнага рэсурса, у размове ён неадназова падкрэсліў, што ён не імперыяліст і пазбягае палітычных тэмаў у сваім часопісе: «Я не ў курсе гэтых раскладаў — ДНР, ЛНР, АТА. Гэта тэмы для палітычных выданняў. А Катанаеў у «Спецназе» прадстаўлены не ў якасці нейкага там баевіка, а ў ролі былога футбольнага фаната. Так, я спаслаўся на ягоныя словы з артыкула «Фанаты Правага сектара», але ўсе мы, журналісты, часам спасылаемся на матэрыялы калег».

**АГ**

# У Гомелі затрымалі маньяка, які закапаў дзвюх сваіх супрацоўніц

24-гадовая **Алеся** і 26-гадовая **Аляўціна** працавалі на адным прадпрыемстве — «Шклалюксе».

І зніклі ў адну дату з розніцай толькі ў 10 месяцаў: першая 15 ліпеня 2014 (у свой дзень нараджэння), другая — 15 мая 2015. У горадзе загаварылі пра магію лічбаў. Але ніякай магіі там не было, была горкая проза жыцця.

Пасля першага знікнення следчыя доўга не маглі ўзяць след. А вось пасля другога нітачка прывяла іх хутка.

15 мая ў міліцыю звярнуўся гамяльчук: а 6-й яго жонка Аляўціна паехала на працу, але да прадпрыемства не даехала. Мабільная сувязь з ёй абарвалася. Пошукі 26-гадовай дзяўчыны праваахоўнікі пачалі неадкладна.

Запісы з вулічных камераў зафіксавалі, як жанчына села ў аўтамабіль. Знайшлі кіроўцу. Ён аказаўся калегам Аляўціны. Яго затрымалі 17 мая. І ён прызнаўся: вывез яе ў гараж, дзе згвалціў, а пасля аглушыў і задушыў. Цела выкінуў каля ракі Іпуць.

Аператыўнікі звярнулі ўвагу, што Аляўціну забілі ў той жа соце мабільнай сувязі, дзе летась абарваліся сляды Алесі. Сталі дапытваць мужчыну зноў. Ён спачатку выкручваўся, але ў выніку паказаў, дзе знаходзіцца і другі труп. Дык хацеў усё абставіць як няшчасны выпадак!

Выявілася, што яны разам збіраліся адзначыць дзень нараджэння Алесі 15 ліпеня. Але скончылася ўсё трагічна: згвалціў, забіў і закапаў у лесе за пяць кіламетраў ад Гомеля.

Падазраваны аказаўся раней судзімым за рабаванне: у 2007 годзе з нажом кінуўся на дзяўчыну. Тады яго пасадзілі на тры гады. Але вызваліўся ўмоўна-датэрмінова. У яго ёсць жонка і трохгадовы сын.

«Гэты Сяргей не вельмі камунікабельны, але спакойны, ветлівы, — кажа нам Любоў, калега забітых. — Мы тут у такім шоку, каб вы ведалі!»

Працавалі Аляўціна і Алеся на ўпакоўцы прадукцыі — там жа, дзе і Сяргей.

«Аля — светлы чалавек, добры, чулы, заўжды прыходзіла на дапамогу, — кажа пра сяброўку Юльяна. — Мы ўсё дзяцінства былі разам. Яна замуж выйшла, дзяцей у іх яшчэ не было».

Аляўціна была адзіная дачка ў сям'і, мама яе памерла ўжо.

Заведзена крымінальная справа за двайное забойства. Следчыя не выключаюць, што ахвяр магло быць больш. Не абавязкова гэта забойствы, але ў Гомелі ёсць некалькі нераскрытых згвалтаванняў. Калі віну гамельчука дакажуць па абодвух эпізодах, яму пагражае расстрэл.


З САЦЫЯЛЬНЫХ СЕТАК
Аляўціна.


З САЦЫЯЛЬНЫХ СЕТАК
Алеся.

**Сяргей Макарэвіч**

# У Чачні Кадыраў дазволіў кіраўніку аднаго з РАУСаў узяць за другую жонку 17-гадовую школьніцу

У Грозным 16 мая пад пратэкцыяй Рамзана Кадырава адбылося скандальнае вяселле начальніка чачэнскай паліцыі, 46-гадовага Нажуда Гучыгава, і 17-гадовай Луізы Гайлабіевай.

Гасцямі ўрачыстасцяў сталі многія высокапастаўленыя чачэнскія чыноўнікі. Дарэчы, сам Нажуд Гучыгаў — добры сябар кіраўніка Чачні Рамазана Кадырава, і ў інтэрнэце можна знайсці фота іх супольнага адпачынку на прыродзе.

Расійскія журналісты расказвалі пра вяселле непаўналетняй школьніцы і начальніка РАУС ад пачатку мая.

Пачатак усяму паклаў артыкул журналісткі «Новай газеты» Алены Мілашынай пра тое, што Гайлабіева выходзіць замуж не па сваёй волі, а ў Гучыгава ўжо ёсць жонка. Акрамя гэтага, Луізе толькі споўнілася 17 гадоў, і па расійскім заканадаўстве для заключэння шлюбу ў такім узросце павінны быць уважлівыя прычыны. Але ўпаўнаважаны па правах дзіцяці ў Расіі Павел Астахаў заявіў з гэтай нагоды, што раннія шлюбы ў Чачні не супярэчаць расійскаму Сямейнаму кодэксу, і прамовіў фразу, за якую прыйшлося ў выніку выбачацца: «На Каўказе раней адбываецца эмансіпацыя і палавое выспяванне, давайце не будзем ханжамі».

Сам Гучыгаў, калі скандал толькі пачынаў разгарацца, казаў, што ў яго ёсць жонка і другая яму не патрэбная. Аднак неўзабаве высветлілася, што вяселле будзе, і жонкі афіцыйна ў Нажуда няма, але была, і яны маюць агульнага дарослага сына, старэйшага за будучую жонку Нажуда.

Само вяселле выклікала толькі новыя сумненні і падазрэнні. Увагу звярталі на тое, што нявесту, замест сваяка, вёў набліжаны Кадырава — кіраўнік адміністрацыі прэзідэнта і ўрада Чачэнскай Рэспублікі Магамед Дауд. Звычайна нявесту выводзіць з бацькавай хаты і ўводзіць у дом нове радні брат жаніха. Зрэшты, і сама нявеста не выглядала шчаслівай (гэта тлумачылі традыцыяй: чачэнскія нявесты не дэманструюць радасць). Нявеста не ўзнімала вачэй і з цяжкасцю рухалася пад пышнымі спадніцамі і ўпрыгожваннямі сукенкі, якую ёй дапамагалі пераносіць.

Цікавым стаў таксама факт, што вядучай цырымоніі ў ЗАГСе аказалася не супрацоўніца ўстановы, а чачэнская журналістка Ася Бялова — яна прадэманстравала дзясяткам журналістаў штампы ў пашпартах Гайлабіевай і Гучыгава.

Журналістка «Новай газеты» Алена Мілашына, якая паспрабавала высветліць падрабязнасці гэтай гісторыі, была вымушаная пакінуць Чачню з-за пагроз і клопату за сваё жыццё. А кіраўнік Чачні Рамзан Кадыраў прыгразіў судом тым, хто будзе ўмешвацца ў прыватнае жыццё мужа і жонкі і станцаваў лезгінку ў Палацы ўрачыстасцяў, дзе праходзіла свята.

**Вольга Гарапучык**

**Фотафакт**

# Беларускія выставы, бязлітасныя і бессэнсоўныя



**Стэнд прадпрыемства «Кветкі сталіцы» на выставе «Свет спорту і здароўя». Сумуе супрацоўнік «Кветак»... Каму ж трэба такія выставы, акрамя як начальству для галачкі? Фота Сяргя Гудзіліна.**

**Здарылася з нашым карэспандэнтам**

# Гісторыя выратавання аднаго сабакі

Вяртаючыся на маршрутцы з роднага горада ў Мінск, падчас прыпынку на трасе я пабачыла за будынкам прыбіральні слабога сабаку. Ён ледзь стаяў на лапах, на ім быў ашыйнік і кавалак ланцуга. Гэта быў лабрадор, якому трошкі больш за год. Сабака ці то збег, ці то яго спецыяльна завезлі ў лес і выкінулі. Брудны, худзізны і з падбітым бокам, ён падышоў да мяне. Ад ежы адмовіўся, хацеў толькі, каб я яго палашчыла. Пры дотыках заплюшчыў вочы ад шчасця. І лашчыўся, лашчыўся, хоць і з асцярогай.

Страшна ўявіць, хто і для чаго выкінуў гэтага прыгожага і добрага сабаку ў лес. Жорсткасць людзей часам не мае межаў. У той момант я вырашыла, што не пакіну яго тут аднаго, чаго б мне гэта ні каштавала. Хоць можна было прайсці міма, як зрабілі іншыя. Па прыездзе ў Мінск я пачала шукаць чалавека з машынай, хто б змог адвесці мяне да лабрадора і забраць яго. Пошукі вывелі на людзей з каманды дапамогі лабрадорам, якія знайшлі машыну і забралі сабаку. Яго адвезлі ў ветклініку, знялі 18 кляшчоў і паставілі кропельніцу, бо сабака быў хворы на піраплазмоз, які перадаюць кляшчы. Яшчэ б пару дзён — і сабака загінуў бы. Узяць да сябе я яго не змагла, бо маю ўжо аднаго сабаку, таму каманда дапамогі лабрадорам знайшла яму ператрымку на пэўны час. Як толькі сабака цалкам ачуняе, пачнуцца пошукі новых гаспадароў.



Спадзяёмся, што сабака забудзецца свае прыгоды як страшны сон. Бо не бывае кепскіх сабак, бываюць толькі кепскія гаспадары.

**Вольга Гарапучык**

**Звяртайцеся ў Рэдакцыю, каму патрэбны сабака. Тэл. (017) 284-73-29, nn@nn.by**

# Беларусь аб’яднае пашпарт з праязным і банкаўскай карткай

Інтэграваная сэрвісна-разліковая картка можа з’явіцца **ўжо ў 2019 годзе**.

Адзіная электронная картка і сэрвісна-разліковая сістэма для Беларусі распрацаваная на ўзроўні канцэпцыі, паведамляе БелаПАН.

Дырэктар дэпартамента інфарматызацыі Мінсувязі Міхаіл Чашчын кажа, што сёння шукаюцца сродкі для рэалізацыі канцэпцыі.

Картка будзе ўтрымліваць сістэмы аплаты, пашпартныя дадзеныя, інфармацыю па страхавых, пенсійных, медыцынскіх, транспартных і іншых паслугах.

Мяркуецца, што грамадзянін сам будзе абіраць, якія паслугі занесці ў картку. Сама картка будзе платнай.

У распрацоўцы карткі ўзялі ўдзел Мінсувязі, Мінэканомікі, МУС, ААЦ і неназваныя грамадскія аб’яднанні.

Падобныя праекты паспяхова дзейнічаюць за мяжой. Напрыклад, эстонская ID-kaart выдаецца з 2002 года. Яна выконвае функцыі пашпарта ў ЕС (паралельна эстонцы маюць папяровы пашпарт), праязнога ў Таліне і Тарту, а таксама дазваляе пакідаць электронна-лічбавы подпіс. Апошняе дае магчымасць рэгістравацца як на электронных парламенцкіх выбарах, так і на шэрагу звычайных сайтаў і форумаў.




Тым часам з іншым праектам інфарматызацыі Беларусі, пераходам на электронны дакументазварот, дагэтуль ёсць праблемы, прызнаў Чашчын. Падключыць усе дзяржорганы і дзяржарганізацыі да электроннага дакументазвароту плануецца ўжо сёлета, а за невыкананне плана прадугледжаная адказнасць.

**Аляксандр Арсёнаў**

# Сяргей Румас: У Афрыцы я ўпаляваў антылопу



У інтэрв’ю сайту by.tribuna.com кіраўнік «Банка развіцця», старшыня Беларускай федэрацыі футбола Сяргей Румас расказаў аб сваёй любові да палявання.

«У мяне ёсць нядрэнныя трафеі. Самы буйны — іланд вагой у тону. Здабыў у Афрыцы. Часам удала страляю гусей. Нядаўна абнавіў асабісты рэкорд. Не ўсміхайцеся, я насамрэч люблю паляванне на гусей», — сказаў былы віцэ-прэм'ер Румас.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Іланд — гэта найвялікшая вінтарогая антылопа. Яе яшчэ называюць канай. Вага такіх жывёлінаў даходзіць да 1000 кілаграмаў, даўжыня цела — два-тры метры, а рост — паўтара метра. Іланды жывуць у засушлівых саванах Афрыкі. Характэрнай прыкметай гэтай антылопы з’яўляюцца доўгія закручаныя ў спіраль рогі.

Адзначаецца, што для палявання на іланда трэба мець добрую фізічную форму. Нярэдка пераслед антылопы доўжыцца суткамі.

На сайтах турагенцтваў, якія прапануюць паляўнічыя туры ў Афрыку, ёсць каштарыс на ўпаляваныя трафеі. Напрыклад, гіганцкі іланд у якасці трафея ў Камеруне абыдзецца вам ні многа ні мала ў 4 тысячы еўра. А сямідзённы тур палявання на антылоп прапануецца па 7,5 тысячы еўра.

**Зміцер Панкавец**

# Аляксандр Саладуха: Крым — расійскі, гэта і каню зразумела

Пра гэта спявак заявіў у інтэрв'ю тэлеканалу «Белсат», адказваючы на **пытанні гледачоў**.

Ці ў курсе ён, што адбываецца ў грамадска-палітычным жыцці краіны і свету, спыталіся гледачы: «Безумоўна, я намагаюся ўсё адсочваць і нічога не прапускаць».

— У такім выпадку чый усё-такі Крым?

— Вядома, расійскі, чый жа яшчэ? Гэта і каню зразумела. Спакон вякоў Севастопаль, рускі флот — гэта ўсё, вядома, расійскае.

Адказаў А. Саладуха і на пытанне, як ён ставіцца да беларускай мовы. «Стаўлюся да яе выдатна. Хочаш размаўляць па-беларуску — размаўляй, не хочаш — размаўляй па-расійску, тут прымушаць нікога нельга. Мова выдатная, прыгожая, шыкоўная. Што да падтрымання — не ведаю, гэта ўжо няхай вырашаюць людзі «наверсе», — мяркуе ён.

**Алег Гардзіенка**



Чытачы б'юць трывогу

# У Фаніпалі скінулі гнёзды гракоў з птушанятамі

Бо яны **занадта шумелі**.

«На ўездзе ў Фаніпаль людзі на машыне з пад'ёмнікам скінулі з дрэў гнёзды гракоў з птушанятамі. Незразумелы ўчынак, бо, па-першае, адпаведна беларускаму заканадаўству, з 15 красавіка забараняецца нават падрэзка галін, бо менавіта ў гэты перыяд птушкі актыўна гняздяцца і выводзяць птушанят. Па-другое, гэтыя гнёзды былі на ўездзе ў горад, а не ў цэнтры, дзе птушкі маглі б забруджваць ходнікі ці помнікі», — паведаміла прэс-сакратарка арганізацыі «Ахова птушак Бацькаўшчына» Вераніка Цярашонак.

Намеснік старшыні Фаніпальскага гарсавета Юрый Савіцкі патлумачыў «Нашай Ніве», што мясцовыя камунальнікі сапраўды прыбіралі гнёзды, але птушанятаў у іх, на думку Савіцкага, не было: «Напэўна, яшчэ птушанятаў на сёння няма. Я мяркую, што і яек яшчэ няма. У тым раёне растуць елкі. Я нават скажу, што яны аварыйныя, гэтыя елкі, яны там сохнуць, мы ўвогуле будзем выдаваць дазвол на іх высечку і пасадку новых. І ў гэтых елках селіцца вараннё. Людзі скардзяцца, што яны спаць не даюць, пачынаюць а 6-й раніцы крычаць. А там стаіць стары дом, у якім жывуць пенсіянеры, якім птушкі надзвычай перашкаджаюць. Ды яшчэ і бізнэс-цэнтр са шклянымі фасадамі побач знаходзіцца. Гэты цэнтр купіў адпужвальнік птушак, аднак усё адно выгляд у яго дастаткова сумны. Таму гнёзды і прыбіраюць, каб птушкі сяліліся далей ад людзей. І раней такія прафіліктычныя работы праводзілі, не толькі цяпер».

**Кірыла Хілько**

Меркаванне

# Грамадства вечных бацькоў

Піша Віктар Марціновіч.



Гэта пачалося з маёй генерацыі — з тых, хто ў піянерах пабываць паспеў, а ў камсамол ужо прыняты не быў, бо дзяржава ляснулася разам з піянерамі, камсамольцамі і чарговым планам на пяцігодку. Да нас задачамі сярэднестатыстычных бацькоў было: а) карміць; б) набыць школьную форму і ранец; в) дапамагчы адкасіць ад войска; г) знайсці блат, каб усунуць дзіцятка ў ВНУ.

Пасля 1991-га ўсё змянілася. Адукацыя зрабілася платнай. Студэнцкі білет як такі болей не забяспечваў дыплом. Трэ’ было шукаць грошы, каб «чада» вучылася, вучылася і вучылася, як раіў Ленін. Бацькі не маглі ўздыхнуць вольна пасля таго, як малое паступіла: траблы для іх толькі пачыналіся.

Замест ад’езду ў адпачынак, новых ботаў для мамы ці новага аўто для таты яны вымушаныя былі працаваць як Сізіф, адкладаючы з заробкаў на штосеместравыя выплаты ўніверсітэту. Дзеткі плаціць за ўласную адукацыю не маглі нават тэарэтычна: куды ж яны ўладкуюцца, калі ў іх няма дыплома?

Хаця той феномен, які я хачу апісаць, узнік з іншай прычыны. Ён з’явіўся (зразумела, гэта толькі мая гіпотэза) якраз таму, што і сам дыплом болей не гарантаваў працаўладкавання. Скончыўшы найлепшую ВНУ, атрымаўшы пасведчанне «юрыста-эканаміста», недаростак заставаўся а) без працы; б) без грошай. Нічым не лепей, чым да ўніверсітэта!

Так узнікла схема адносін паміж бацькамі і дзецьмі, якой нашае цяперашняе грамадства характарызуецца ў той жа ступені, як характарызуецца яно плакатамі «Разам мы Беларусь», Аляксандрам Саладухам ці віншаваннем з 9 Мая ад Мінскага гарадскога савета дэпутатаў у метро. Бацькі тут — статус адвечны. Гэта кшталту працы, з якой нельга пайсці на пенсію.

У той час, як у Штатах, Еўропе і нават суседніх Літве з Украінай дзеткі, адвучыўшыся, пачынаюць самі дапамагаць старэйшым, у нас яны садзяцца на пажыццёвую рэнту, чакаючы дапамогі штомесяц.

Першы прыклад: сям’я, ёй 40, яму 42. Яна інжынер, ён — нешта сярэдняе паміж архітэктарам і тэхнолагам. 2 гады таму яе звольнілі праз крызіс, у яго працы як такой не было ніколі. Ён жыў на яе грошы, піў, канечне, але хто тут не п’е?

Дык вось, яна звальняецца, сям’я застаецца без кармільца, і ім... што б вы думалі? Так! Ім пачынаюць дапамагаць бацькі!

Ягоная маці, пенсіянерка (3,5 мільёна), уладкоўваецца прадаўцом (яшчэ 4 мільёны). Яе маці — таксама пенсіянерка са стажам у сацыяльным сектары (2 мільёны) ідзе прыбіральшчыцай на аздараўленчы аб’ект (3 мільёны). Яны даюць дзеткам супольна, у чатыры рукі, каля 5 мільёнаў штомесяц, і гэтага хапае, каб піць, глядзець тэлевізар, асуджаць Украіну і «піндосаў» і «шукаць працу». «Шуканне працы» ў такіх выпадках — працэс, здольны цягнуцца 3, 5, 10 гадоў. Паўтаруся, пацыентам 40 і 42.

Другі прыклад, з іншага сацыяльнага слою. Бацькі нявесты — уладальнікі буйной рэстараннай сеткі з такой калгаснай назвай, што я ніколі б не зайшоў у іх установу. Бацькі жаніха — ніхто, а таму жаніх у свае 23 — ужо ўладкаваны спецыяліст з надзеяй зрабіцца сэлфмэйдам праз тры гады. Шлюб, 600 запрошаных, прэзентаваная трохпакаёўка ў навабудзе на Някрасава, усё, карацей, як у рускім (і, надзіва, бліскучым!) фільме «Вяселле». І што? Яна заканчвае вучыцца і — не, не ўладкоўваецца на працу менеджарам у бацькоўскі бізнэс.

Так адбылося б у ЗША, так, можа, адбылося б і ў Расіі. Але ў нашых бізнэсоўцаў вельмі спецыфічныя этычныя законы. Ім «западло», калі дзеці працуюць.

Тым больш у іх сістэме. Ні іх жонкі, ні іх дзеці не павінныя быць уключаныя ў іх імперыю. Я, дарэчы, не ведаю, чаму так. Можа, уласнікам кампаній — асабліва буйных і тых, што працуюць у Беларусі на «асаблівых умовах», — проста крыху сорамна дапускаць блізкіх да ўсіх тых канвенцый, з якімі яны вымушаныя лічыцца? Хаця я ім не псіхааналітык. Я толькі назіраю і раблю высновы.

Карацей, маладыя садзяцца на надзейную штомесячную «рэнту», вызначаную лімітам на бацькавай картцы. Нявеста не шукае работы, яе жыццё праходзіць недзе паміж салонам прыгажосці і «Каронай Замак». Ён у пэўны момант разумее, што заробак, які ён атрымлівае, як патэнцыяльны будучы сэлфмэйд, — слёзы і сорам. Таму ён звальняецца, пачынае таўсцець і робіцца заўсёднікам некалькіх мінскіх кавярняў.

Я магу прадказаць, чым гэта скончыцца: да таты рана ці позна прыйдуць, і тады накрыецца дабрабыт усёй гэтай кодлы.

Прычым, я думаю, гэта не будзе азначаць, што маладыя ўладкуюцца на працу. Хутчэй за ўсё жонка алігарха пойдзе прыбіральшчыцай у басейн і будзе дапамагаць дзеткам хаця б пяццю мільёнамі.

Азірніцеся на сваіх знаёмых, вы абавязкова знойдзеце некалькі прыкладаў дзетак, што надзейна сядзяць на шыях у бацькоў. Дзетак, якім 30, 35, 40 гадоў.

Я ім не суддзя. Я добра разумею, што гэта не праз ляноту. Ці не толькі праз ляноту.

Што справа, якой ты прысвяціў жыццё, тут можа скончыцца — з умяшаннем дзяржавы ці без. Але калі я назіраю за фінскімі ці нямецкімі пенсіянерамі ў гарах вакол Мандалая, мне робіцца крыўдна за тое, што іх старасць такая, а мая, магчыма, будзе зусім іншай...

**budzma.by**

# Dad bod: трэнд на мужчынскія жываты

Калонка амерыканскай студэнткі аб прывабнасці мужчын з жыватом запусціла дыскусію, да якой далучыліся як простыя карыстальнікі сеціва, так і выданні ўзроўню Time і The Washtington Post.

У апошнія некалькі тыдняў тэрмін «dad bod» (вытворнае ад «dad body» — «бацькава цела») пачаў набіраць вялікую папулярнасць у СМІ. Гэта адбылося пасля публікацыі студэнткі ўніверсітэта Клэмсана Макензі Пірсан пад назвай «Чаму дзяўчаты любяць dad bod».

Макензі апісала з'яву як «прыемны баланс паміж піўным пузам і плоскім жыватом», які кажа пра тое, што хлопец час ад часу зазірае ў трэнажорную залу, але можа з'есці ў выходны дзень восем кавалкаў піцы за раз і не імкнецца дасягнуць дасканалай фізічнай формы.


На фота прыклад ідэальнага dad bod, які абрала Макензі.

Пірсан лічыць dad bod ідэальным станам для мужчыны, таму што побач з такім хлопцам дзяўчыне не трэба намагацца выглядаць бездакорна. На яе думку, многія жанчыны, наадварот, хочуць глядзецца прыгажэй за сваіх мужчын, каб адчуваць сябе больш упэўнена.

Макензі таксама адзначае, што з уладальнікамі dad bod камфортна разам есці, а яшчэ іх прыемна абдымаць. Стаўленне да гэтай тэзы падзялілася.

Хтосьці з вядомых журналістаў і публічных асоб кажа пра тое, што гэта толькі павялічвае няроўнасць палоў. Бо ў такім выпадку мужчыны атрымліваюць куды больш свабоды ў фарміраванні свайго выгляду, у той час як жанчыны мусяць гэтак жа сачыць за сабой.

А вось калумніст The Washington Post Пітэр Холі, наадварот, падтрымаў dad bod і ў сваім тэксце распавёў, што з 20 да 30 гадоў не вылазіў з трэнажорнай залы, аднак бездакорная форма не толькі не рабіла яго больш прыцягальным для жанчын, але і адштурхоўвала іх. На думку Холі, з'яўленне ў яго невялікага пуза вырашыла ўсе гэтыя праблемы і зрабіла яго больш прывабным для супрацьлеглага полу.

«У наш час жанчыны шукаюць хлопцаў, якія маюць добрую працу, любяць дзяцей і прапануюць ім мяккі жывоцік, на якім прыемна паляжаць пасля цяжкага дня, — усе гэтыя рэчы абяцае dad bod. Мужчыны з жорсткім торсам і шырокімі біцэпсамі занадта шмат часу праводзяць у трэнажорнай зале, ім няма калі захоўваць кухню ў чысціні», — піша журналіст.

**Яўгенія Згурская**



## Памёр кароль блюзу Бі Бі Кінг

Яго не стала ў Лас-Вегасе ў веку **89 гадоў**.

Бі Бі Кінг памёр у сне ў сябе дома. Музыка нарадзіўся ў 1925 годзе. Спачатку быў фермерам, на гітары іграў у вольны час. У 1957 выйшаў яго першы альбом Singin' The Blues. Усяго дыскаграфія музыканта налічвае больш за 40 пласцінак.

У апошнія гады Бі Бі Кінг не даваў буйных канцэртаў. Яго развітальны гастрольны тур прайшоў у 2006 годзе.

Па выніках праведзенага часопісам Rolling Stone апытання Бі Бі Кінг заняў шостае месца ў спісе 100 найлепшых гітарыстаў усіх часоў.

**«Бі-Бі-Сі»**

## ЗША забароняць татальную праслушку ўнутры краіны

Кангрэс выступіў супраць Агенцтва нацыянальнай бяспекі.

Палата прадстаўнікоў Кангрэсу ЗША прыняла «Акт аб свабодзе ЗША», што забараняе Агенцтву нацыянальнай бяспекі масавы збор звестак пра амерыканцаў і несанкцыянаваную праслушку іх тэлефонаў, паведамляе Reuters.

«Акт аб свабодзе ЗША» набраў 338 галасоў супраць 88. Закон яшчэ мае быць прынятым у Сенаце (большасць якога складаюць рэспубліканцы, якія, хутчэй за ўсё, прагаласуюць за) і падпісаным прэзідэнтам (законапраект збольшага заснаваны на прапановах самога Абамы).

Закон у Палаце прадстаўнікоў падтрымалі як рэспубліканцы, так і дэмакраты. Але некаторыя сенатары выступаюць за аднаўленне масавага збору звестак, нібы дазволенага так званым Патрыятычным актам, прынятым пасля тэрактаў 11 верасня 2001 года.

Акт дазволіць АНБ здзяйсняць пошук па базах дадзеных тэлефанаванняў, але пры дакладна вызначаных абмежаваннях і пад кантролем. Раней агенцтва легальна збірала ўсю інфармацыю пра тое, між якімі нумарамі адбываліся тэлефанаванні на тэрыторыі ЗША. Але, як паказалі выкрыцці Эдварда Сноўдэна, рабіла багата напаўлегальных і нелегальных дзеянняў па зборы звестак.

**АА**

## У мінскім аэрапорце злавілі расійскага баевіка

Мужчына ляцеў рэйсам Барселона — Мінск.

У Нацыянальным аэрапорце «Мінск» 16 мая затрымалі 28-гадовага грамадзяніна Расійскай Федэрацыі. Падчас праверкі выявілася, што мужчына знаходзіцца ў расійскім вышуку за «арганізацыю незаконнага ўзброенага фармавання ці ўдзел у ім».

Прэс-сакратар Памежнага камітэта Аляксандр Цішчанка патлумачыў: «Гэта не спецаперацыя, а падчас памежнага кантролю высветлілася асоба. Гэта ўсё аўтаматызаваныя базы — усё тое, што любяць называць «чорнымі спісамі», стоп-лістамі. Па сутнасці, гэта базы, якія выкарыстоўваюць звесткі Інтэрпала, Еўрапала».

Па словах прадстаўніка памежнікаў, затрыманага расіяніна перадалі ў МУС, які далей будзе вырашаць пытанні яго экстрадыцыі ў Расію.

**«Еўрарадыё»**

## Дзе варта быць

### Прэзентацыя кнігі Паўла Севярынца «Беларуская глыбіня» ў вёсцы Русіна — 23 мая

У суботу 23 мая а 12-й — літаратурная сустрэча і прэзэнтацыя кнігі Паўла Севярынца «Беларуская глыбіня» пад Баранавічамі, у вёсцы Русіна, на сядзібе ТБМ (вул. Сасновая, 5). Даехаць проста: ад станцыі «Баранавічы-Палескія» да Русіна адзін прыпынак, у бок Лунінца. Уваход вольны.

Дарэчы, Севярынец увогуле нястомна падарожнічае. 17 мая ён пабываў у іншым канцы Беларусі — Смаргоні і Гальшанах.



### Ад рэдактара

Паведамляйце ў «Нашу Ніву» пра ўсе цікавыя ці, наадварот, абуральныя факты.
У большасці выпадкаў публікацыя ў незалежнай газеце аўтаматычна прыводзіць да выпраўлення сітуацыі. Але для гэтага ў Вашым паведамленні мусіць быць канкрэтыка, а Вашы наракання павінны быць законнымі і справядлівымі.
Пішыце на электронную пошту, у скайп, пісьмом ці праз форму на сайце NN.BY.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск.**

**e-mail: nn@nn.by.**
**Факс: (017) 284-73-29 Skype: nashaniva**

Кіно

## Дызельпанк з пустэльні

Шалёны Макс: Дарога лютасці
**Жанр:** фантастыка, баявік, прыгоды
**Рэжысёр:** Джорж Мілер
**У ролях:** Том Хадзі, Шэрліз Тэрон, Ніканас Холт, Х'ю Кіяс-Бёрн, Джош Хелман, Нэйтан Джонс, Зоі Кравіц, Роўзі Ханцінгтан-Уайтлі, Райлі Кіа, Эбі Лі
ЗША, Аўстралія, 120 хв.
**Адзнака:** 8

Пасля помсты за смерць жонкі і сына Макс Ракатанскі пакінуў шэрагі Асноўнага сілавога патруля і з'ехаў у глухія мясціны, дзе бадзяецца ў адзіноце, пакуль свет павольна разбураецца з-за энергетычнага крызісу і сусветнай вайны. Макс вучыцца выжываць у постапакаліптычнай пустэльні, але трапляе ў палон да жорсткага клану істот, якія вырадзіліся ў хваравітае племя і імкліва страчваюць чалавечае аблічча. Вандроўнік апынуўся ў цэнтры бунту, завадатаркай якога стала адважная ваярка Фюрыёза.

Стужка з'яўляецца першым фільмам франшызы «Шалёны Макс» за амаль 30 гадоў. Сцэнарыстам, прадзюсарам і рэжысёрам зноў выступіў Джордж Мілер, аўтар кінафраншызы ў стылі дызельпанк. «Мы быццам бы апынуліся ў фантазіі Мілера», — расказаў брытанец Том Хардзі, выканаўца ролі Макса, адзначыўшы, што аснову фільма складаюць незвычайныя транспарт, прылады, касцюмы і лакацыі. Хардзі спецыяльна сустракаўся з Мэлам Гібсанам, выканаўцам ролі Макса ў папярэдніх фільмах, і атрымаў яго блаславенне на ролю.

Здымкі адбываліся ў пустэльні Наміб у Афрыцы. Больш за 80% эфектаў у фільме былі знятыя ўжывую. Камп'ютарная графіка выкарыстоўвалася толькі для паляпшэння пейзажу Намібіі, для выдалення часткі абсталявання, якое выкарыстоўвалася падчас здымак трукаў, а таксама для левай рукі Шэрліз Тэрон, якая ў фільме з'яўляецца пратэзам. «У фільма моцны пасыл. Калі не можаш збегчы ад сітуацыі, паспрабуй змяніць яе саму», — мяркуе Шэрліз Тэрон. Для здымак акцёрцы з ПАР давялося пагаліцца налыса.

Вядома, што ў лютым 2013 Намібійская кіруючая група па захаванні ўзбярэжжа абвінаваціла прадзюсараў у пашкоджанні частак пустэльні, якія прывялі да скарачэння колькасці відаў раслін і жывёл.




Унікальны постапакаліптычны свет, створаны Мілерам, населены яскравымі і харызматычнымі персанажамі. Дынамічны сюжэт аздоблены атмасферай пустэльні і фантастычнамі механізмамі. Рэкамендуецца для прагляду аматарам добрага экшну.

**Настасся Уласава**

### Дызельпанк

жанр фантастыкі, вытворны ад кіберпанка (англ. cybernetics «кібернетыка» і англ. punk «смецце»). Апісвае свет, які базуецца на тэхналогіях ўзроўню паміж Першай і Другой сусветнымі войнамі. Таксама азначае субкультуру, якая спалучае ў сабе эстэтыку таго часу з постмадэрнісцкімі тэхналогіямі і пачуццямі.

# Нявеста на мільярд

Як абаяльная жыхарка Гомеля «развяла» жаніхоў, сяброўак і банкі.

Суд Цэнтральнага раёна Гомеля вынес прысуд у дачыненні да «абаяльнай і прывабнай» 50-гадовай жыхаркі абласнога цэнтра. Пад абяцанні выйсці за замуж, вярнуць даўгі з працэнтамі, пад слёзныя запэўніванні яна выпампоўвала са сваіх ахвяр вялікія сумы. Узбагачалася «фатальная жанчына» нават адбываючы пакаранне ў калоніі-пасяленні, дасягнуўшы значнага поспеху ў эпісталярным жанры. У стагоддзе інтэрнэту яна цалкам паспяхова дзейнічала па-старому, адпраўляючы кавалерам далікатныя лісты, канвертуючы абяцанні выйсці замуж у грашовыя купюры.

Сябе Галіна Сяргееўна прэзентавала ў вачах навакольных як рэспектабельную даму са шматлікімі сувязямі. Яна нібыта мела цяплічны бізнэс у Брэсцкай вобласці, мужа на «шабашцы» ў Расеі, адзін брат у яе быў мытнікам з сувязямі, другі працаваў у краме канфіскаваных тавараў, муж дачкі — дырэктарам рыбгаса. Іншыя сваякі служылі ў дзяржаўных органах.

І ўсе гэтыя байкі былі падманам ад пачатку і да канца.

Паводле прысуду, абвінавачаная атрымала адзінаццаць гадоў і два месяцы калоніі за махлярства, яе прызналі небяспечнай рэцыдывісткай. Суд пастанавіў спагнаць з Галіны Сяргееўны на карысць пацярпелых значныя сумы з шасцю і сямю нулямі на канцы. Толькі вось як у рэальнасці спагнаць гэтыя грошы? Пацярпелым застаецца толькі шкадаваць аб сваім залішнім даверы.

Не ўсе выпадкі падману даверлівых людзей скончыліся абвінаваўчым прысудам. Па некаторых эпізодах не ўдалося даказаць датычнасць махляркі.

Ёсць інфармацыя, што некаторыя ахвяры аферысткі пасля ўсведамлення, што праз залішнюю даверлівасць ім цяпер давядзецца вяртаць банкам шасцізначныя сумы, былі вымушаныя звярнуцца па дапамогу ў псіхіятрычную бальніцу. Адна з ахвяраў махляркі спрабавала звесці рахункі з жыццём, даведаўшыся, што прыйдзецца плаціць за крэдыт разам з пеняй і працэнтамі на неймаверную для яе суму. Людзям трэба будзе не адзін год працаваць на банк, улічваючы, што грошай яны і ў вочы не бачылі — усе сумы перадавалі аферыстцы.

Ураджэнка Лунінца Галіна Сяргееўна мела вышэйшую адукацыю і прайшла свае «турэмныя ўніверсітэты», зрабіўшы асаблівы ўпор на рэалізацыю на практыцы палажэнняў артыкула КК 209 — махлярства. За «злоўжыванне даверам» яна тройчы адбывала пакаранне. Апошні раз была пераведзеная за добрыя паводзіны ў калонію-пасяленне ў Веткаўскім раёне. Там часу дарма не губляла — пісала лісты патэнцыйным жаніхам, адрасы якіх знаходзіла ў раздзеле «Знаёмствы» розных газет.

Аб некаторых дэталях крымінальнай справы паведаміў старшы памочнік пракурора Гомеля Яўген Фартушняк.

Абвінавачаная не толькі пазычала грошы (або брала проста так), але і прасіла пацярпелых аформіць на сябе крэдыты. Тыя згаджаліся, становячыся ахвярамі маніпуляцый. Пад д'ябальскую ў літаральным сэнсе чароўнасць Галіны Сяргееўны траплялі, напэўна, амаль усе людзі з кола яе знаёмых.

Да прыкладу, пасля вызвалення з калоніі-пасялення жанчына асела ў Гомелі. У арандаваную кватэру прыходзіць па заяўцы электраманцёр. І вось мужчына, расчулены байкамі пра цяжкую жаночую долю, ужо ахвотна згаджаецца ўзяць крэдыт у банку на сваё імя. Грошы перадае самотнай прыгажуні.

Яшчэ ў калоніі-пасяленні Галіна Сяргееўна знаёміцца з фермерам, які займаецца вырошчваннем свіней. І вось ужо ў крымінальнай справе фігуруюць эпізоды махлярства: узяла шэсць свіных туш і столькі ж парсючкоў, абяцала заплаціць — толькі яе і бачылі.

Вычытаўшы ў газеце чарговую аб'яву аб пошуках надзейнай спадарожніцы жыцця, Галіна Сяргееўна піша ліст у далёкі расійскі Наябрск. Завязваецца перапіска, высылаюцца фатаграфіі. Махлярка абяцае пераехаць жыць у Наябрск да жаніха. Толькі грошы патрэбныя на пераезд, ды і на іншыя «дробязі». І вось з Наябрска ляцяць у Гомель грашовыя пераводы. Вось-вось ужо вылеціць бліжэйшым рэйсам да жаніха беларуская прыгажуня, ды толькі зноў няўдача: то брат у аварыю трапіў, то грошай не хапіла на квіток, то міфічны рахунак у банку заблакавалі. І зноў просьбы пра круглыя сумы.

Пакуль у Наябрску чакае рэйса з Беларусі самотны мужчына, яго таварыш па няшчасці будуе планы аб сумесным жыцці з беларускай у Пярмі. Ёй і трэба ўсяго толькі: грошай на чыгуначны кантэйнер, перавезці да яго маёмасць, і два аўтамабілі. Грошы выслаў, але следам прыйшоў «пяшчотны папрок», што замала і трэба яшчэ. Потым «нявеста» патлумачыла, што яе пераезд зацягваецца, бо яна судзімая і ёй камусьці трэба даць хабар, таму зноў «дай грошай».

## «Верыў абвінавачанай», — казаў на судзе пацярпелы. Такая ж фраза прагучыць дзясятак разоў

Вось так Галіна Сяргееўна ехала, ехала ў Перм, але шлях быў нялёгкім — па дарозе ў Маскве «захварэла на пнеўманію» і лячылася. За грошы, вядома ж. Потым яна ўжо і вылятала да жаніха, ды тут раптам зноў няўдача: «брата машына збіла». А не паспеў «брат» ачуняць, як нехта са «сваякоў» нагул узяў дый памёр. Зноў выдаткі, і адкладаецца любоўнае спатканне. А потым зноў не хапіла грошай на білет. І зноў даверлівы мужчына пайшоў рабіць перавод.

Агульная шкода ад ашуканскіх дзеянняў у дачыненні да грамадзяніна Расіі склала 371000 расійскіх рублёў (больш за 100 млн беларускіх)— пры яго зарплаце ў 25 тысяч за месяц. Пайшлі на аферыстку ўсе зберажэнні расіяніна.

**Шкода, прычыненая злачыннымі дзеяннямі абвінавачанай, набліжаецца да 1 мільярда рублёў**

У гэты ж час, яшчэ ў калоніі-пасяленні, жанчына ўступіла ў законны і сапраўдны шлюб з беларусам. Не тое каб вялікае каханне — афіцыйны шлюб прадугледжвае змену прозвішча. І вось ужо Галіна Сяргееўна смела можа адпраўляцца ў банкі па крэдыты, чым неадкладна яна і скарысталася.

Яна засталася павінна чатыром банкам, дзе прымудрылася ўзяць крэдыты, больш чым на 100 мільёнаў рублёў. Пры гэтым абвінавачаная ў адказах на пытанні для складання заяўкі на атрыманне крэдыту паказвала лжывыя звесткі аб месцы працы, аб заробку, сукупным даходзе сям'і. І неяк усё сыходзіла з рук, але да пары да часу. Потым банкі перасталі крэдытаваць аферыстку, але яна хутка знайшла людзей, якія пагадзіліся афармляць крэдыты на сябе, а грошы аддаваць Галіне Сяргееўне.

Так пацярпелі і «патрапілі» на буйныя сумы дзве знаёмыя абвінавачанай. Адна з іх была суседкай, другая — сяброўкай суседкі. Але шляхам маніпуляцый махлярка пасварыла сябровак, і тыя ўжо не кантактавалі паміж сабой, але сябравалі з Галінай Сяргееўнай. Пацярпелыя бралі крэдыты ў банках пад вялікія працэнты і ўсе грошы перадавалі абвінавачанай.

«Паколькі пацярпелыя былі пасвараныя, то і кіраваць імі было лёгка, яны адна адной нічога не распавядалі і, такім чынам, крэдыты можна было афармляць на абедзвюх, пакуль банкі даюць на гэта згоду», — растлумачыў Яўген Фартушняк.

Пры гэтым махлярка распавядала сяброўкам чарговыя байкі аб тым, што грошы трэба тэрмінова на куплю кватэры, гаража. Зноў усплываў «брат», на лячэнне якому трэба былі грошы, і дзеці з іх праблемамі, і нейкія выплаты падаткаў і гэтак далей. Адна з сяброўак у адзін дзень узяла ў адным банку 50 мільёнаў, у іншым — 25 мільёнаў. Другая — сорак мільёнаў. І ўсе грошы былі перададзеныя Галіне Сяргееўне.

Сяброўак яна залагоджвала падарункамі. Прычым падарункі брала ў іншых сваіх знаёмых, якія атрымалі на судзе і следстве статус пацярпелых. У індывідуальнага прадпрымальніка жанчына набрала ў пазыку масу адзення — басаножкі, майкі, кофты, пасцельную бялізну, шторы, тэпцікі, пледы, халаты, падушкі і гэтак далей. Грошай не вярнула, а вопратку і рэчы шчодра раздорвала знаёмым, якія бралі ёй мільёны ў банку.

Яшчэ з двума знаёмымі прарабіла такі ж трук, запэўніваючы, што пагашаць крэдыт будзе яна сама, банкі прэтэнзій да пацярпелых мець не будуць. Пераконвала пацярпелых браць крэдыты і перадаваць ёй атрыманыя па крэдытных дамовах грашовыя сумы на розных выдуманых падставах.

Пацярпеў ад махляркі беларус, які працаваў разам з яе мужам у Веткаўскім раёне. У мужчыны Галіна Сяргееўна папрасіла ў доўг 2,5 тысячы даляраў.

«У Гомелі прадаецца тэрмінова кватэра, за палову цаны, гаспадар у Ізраіль з'язджае, крыху не хапае грошай», — патлумачыла аферыстка. У мужчыны столькі грошай не было, і ён узяў пазыку ў аднаго сябра 1,8 тысячы даляраў, і 2,5 перадаў-такі.

У абумоўлены тэрмін, натуральна, сваіх грошай ён не ўбачыў. Абвінавачаная ж увесь час запэўнівала яго, што грошы ёсць, але яна не можа скарыстацца імі, кожны раз прыдумвала новыя прычыны, па якіх не можа вярнуць пазыку.

Між тым да мужчыны прыйшоў яго сябар-крэдытор і запатрабаваў вярнуць 1,8 тысячы даляраў. Той патлумачыў, што грошай няма. Сталі тэлефанаваць удваіх Галіне Сяргееўне. Тая прапанавала сустрэцца. Новаму знаёмаму пры сустрэчы распавядала пра свой дабрабыт, распавяла розныя гісторыі, з-за якіх не можа разлічыцца з абавязкам. Потым абвінавачаная пры чарговых іх сустрэчах перадала яму ўсяго толькі 200 даляраў. А рэшту — 1,6 тысячы даляраў — давялося вяртаць сябру.

Пасля вызвалення аферыстка ўладкавалася на працу швачкай у Гомелі з заробкам у 1 мільён рублёў. Не тое каб працаваць захацела: афіцыйная праца забяспечвала даведку аб даходах. На прадпрыемстве яна паспела зачараваць жанатага мужчыну. Папрасіла ў яго пазычыць грошай. Тлумачыла, што ў яе ёсць грошы, дастаткова, але на нейкім рахунку, які пакуль заблакаваны.

Спачатку папрасіла 3000 даляраў — нібыта на куплю кватэры, гаспадар якой з'язджае ў Ізраіль. Грошы патрэбныя былі тэрмінова. Першапачаткова калега не пагадзіўся, але тут у ход была пушчаная цяжкая артылерыя «слабага полу» — горкія слёзы. Мужчына, па яго ж словах, пашкадаваў няшчасную — зняў грошы са свайго банкаўскага рахунку, перадаў Галіне Сяргееўне.

У тэрмін яна грошы не вярнула, больш за тое — папрасіла яшчэ адну тысячу даляраў. Патлумачыла так: у яе ёсць грошы, зняць іх з рахунка яна не можа, бо трэба заплаціць падатак — тысячу даляраў. Пацярпелы зноў паверыў. У яго дома меліся асабістыя зберажэнні на куплю вокнаў у кватэру — яны і адправіліся ў кішэню махляркі.

Не аддаўшы і гэтыя грошы, папрасіла яшчэ 2 тысячы даляраў нібыта на куплю гаража. Грошай у мужчыны ўжо не было. Але ён знайшоў выйсце — папрасіў у свайго сына. Галіна Сяргееўна працягвала карміць даверлівага калегу абяцанкамі. Маўляў, ёй проста хранічна не шанцавала! Вось зноў збіралася вярнуць мужчыну грошы — а тут «сын» патрапіў у аварыю ў Расіі. І тады чуллівы мужчына зноў дапамагае «фатальнай красуні» — перадае ёй 2,5 мільёна, затым яшчэ 600 тысяч... «Верыў абвінавачванай», — даў паказанні на судзе жыхар Гомеля.

Калі ён прыгразіў, што звернецца ў міліцыю, то абвінавачаная праз іншых асоб пераслала пацярпеламу чатыры паштовыя пераводы на агульную суму 36 мільёнаў. Абяцала і астатнюю суму вярнуць. А пакуль жа ў выглядзе падзякі папрасіла былога ўжо калегу прыняць ад яе ў падарунак планшэт. Тэхніку перадаў незнаёмы чалавек. Але планшэт быў не новы, падрапаны, і раззлаваны жыхар Гомеля выкінуў яго ў смецце. Ці трэба казаць, колькі праблем потым займеў дома няўдачлівы мужчына, які разбазарыў сямейныя грошы.

Быў у крымінальнай справе і такі эпізод. Знаёмым аферыстка распавяла казку, што яе брат працуе ў краме канфіскаваных тавараў. І там ёсць добры мікрааўтобус на продаж, яго можна купіць нядорага і тэрмінова. Угаварыла знаёмых узяць крэдыт на 42 мільёны, грошы (дакладней, пластыкавую картку з пін-кодам) забрала сабе, як звычайна, «на асабістыя патрэбы». Аўтамабіль з Брэста так і не прыехаў. Абвінавачаная потым сказала, што неабходна чакаць рашэння суда аб канфіскацыі аўтамашыны.

Вядома, ніхто мікрааўтобус не бачыў у вочы, як, зрэшты, і ўзятых пад яго куплю крэдытных мільёнаў.

**Алена Германовіч, «Беларускія навіны»**



Кіраўнік Следчага камітэта ўзяў справу пад асабісты кантроль.

СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ

# «Чорныя рыэлтары» ў Магілёве забілі і закапалі шэсць чалавек

З выпівохамі распраўляліся, каб **атрымаць іх кватэры**.

Галоўнае следчае ўпраўленне распачало крымінальную справу ў дачыненні да двух мужчын і адной жанчыны, якіх падазраюць у забойстве шасці чалавек і падрыхтоўцы да забойства яшчэ аднаго.

У лістападзе летась у міліцыю звярнуўся жыхар Магілёва: прасіў адшукаць яго адзінокага сваяка. Аператыўнікі высветлілі, што зніклы ў верасні быў выпісаны са сваёй кватэры і зарэгістраваны ў адной з вёсак Мінскага раёна. Пацягнулі за нітачку далей і выйшлі на яго сувязі з беспрацоўным магілёўцам і яго жонкай. Абое раней паспелі адседзець за махлярства, звязанае з продажам нерухомасці ў 2005—2008 гадах. Іх затрымалі сёлета ў сакавіку разам з прыяцелем, калі везлі чарговую ахвяру ў лес пад Магілёвам: 51-гадовы мужчына пры сабе меў вялікую суму ад продажу кватэры. Там яго меркавалі забіць, а грошы забраць.

«У ходзе расследавання крымінальнай справы інфармацыя пацвердзілася. Акрамя таго, следчымі былі атрыманыя дадзеныя аб дачыненні абвінавачаных да забойства яшчэ шасці жыхароў Магілёўскай вобласці, целы якіх вывозілі і закопвалі на розных могілках. Матывам злачынства ў кожным выпадку выступалі грашовыя сродкі, атрыманыя ад продажу кватэр», — паведамілі ў Следчым камітэце.

Затрыманыя, як мяркуецца, выступалі пасярэднікамі пры продажы жытла. Усё адбывалася легальна. А пасля ўгоды яны вывозілі прадаўцоў з грашыма, пасля і тут іх след абрываўся. Першы вядомы факт такой працы «чорных рыэлтараў» адносіцца да 2009.

Сярод забітых — пяцёра мужчын і жанчына. Усе 1950—1960-х гадоў нараджэння. Ахвяр сабе выбіралі сярод адзінокіх людзей, якія вялі асацыяльны лад жыцця, выпівохі. Галоўнае, каб мелі ўласную кватэру.

Целы ахвяр эксгуманаваны. Следчыя правяраюць магчымае дачыненне затрыманых да іншых аналагічных спраў па краіне. Не выключана, што ў гэтай злачыннай схеме маглі браць удзел работнікі камунальных службаў, якія і перадавалі зламыснікам звесткі пра выпівох.

«Дзеянні абвінавачаных следствам кваліфікаваныя па ч.2 арт.139 (забойства, здзейсненае пры абцяжваючых абставінах) Крымінальнага кодэкса. У дачыненні да іх прыменена мера стрымання ў выглядзе заключэння пад варту», — заявілі ў Следчым камітэце. Ім пагражае пакаранне ажно да пажыццёвага зняволення альбо нават расстрэлу.

**Кастусь Матушыч**

# У страшнай аварыі пад Касцюковічамі загінула пара, якая вярталася з заручын

**На чыгуначным пераездзе** загінулі шматдзетны бацька з сынам і цяжарная маладая жанчына.

Трагедыя адбылася 12 мая ў Касцюковіцкім раёне. Як паведамілі ў Следчым камітэце, каля 18.00 кіроўца «Опеля» парушыў правілы праезду чыгуначнага пераезда, дзе сутыкнуўся з грузавым цягнікам.

29-гадовы кіроўца Руслан і 17-гадовая Віка загінулі на месцы, сын Руслана, 2011 года нараджэння, і 23-гадовы Уладзімір сканалі ў бальніцы.

«Віка была вельмі добрым чалавекам. Яна была цяжарная, у гэтым месяцы даведалася б, хто будзе: хлопчык ці дзяўчынка. Ехала з мужам, за рулём сядзеў муж сястры, — расказала пра сяброўку Наста. — Яна пасля 9 класаў пайшла ў Клімавічы вучыцца на прадаўца. Была на 2 курсе. Калі б у школе засталася, то вучылася б у 11 класе».

Віка і Валодзя жылі ў яе мамы ў аграгарадку Новыя Саматэвічы Касцюковіцкага раёна. У Вікі ў сям'і яшчэ ёсць 4 сястры.

«Наколькі мне вядома, яны ездзілі знаёміцца да бацькоў хлопца. Яшчэ не ажаніліся. Ну і калі ўсё здарылася, яны ехалі ўжо дамоў, — удакладніла іншая знаёмая Вікі. — Добрая была, вясёлая, дзяцей любіла».

У кіроўцы Руслана ёсць яшчэ дзеці: старэйшыя дачка і сын.

Па інфармацыі Следчага камітэта, Руслан у сакавіку 2015 быў асуджаны за парушэнне правілаў дарожнага руху, што пацягнула па неасцярожнасці прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання: наехаў на пенсіянерку. Па рашэнні суда яму прызначылі пакаранне ў выглядзе двух гадоў папраўчых работ з пазбаўленнем права кіравання машынай на 5 гадоў. Але вось сямейная справа пагнала ў дарогу. Атрымаў мо пакаранне больш жорсткае, то і сам застаўся б жывым, і сваячка нарадзіла б.

**Сяргей Макарэвіч**



СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ

З САЦЫЯЛЬНЫХ СЕТАК

Руслан з малодшым сынам.

# Падсыпала атруту мужу ў салату

Берасцейка **тройчы спрабавала** забіць сужэнца. Усё няўдала.

Жыхарку Брэста затрымалі 2 верасня 2014 падчас сямейнага пікніка. Яна наўмысна зладзіла абед на прыродзе, каб на ім забіць мужа. Для гэтага выбрала крабавую салату — у яе і падсыпала атруту. Муж усё з'еў, але застаўся жывы. Гэты «спектакль» адбываўся пад наглядам аператыўнікаў, а замест атруты аказаўся бяскрыўдны парашок.

Сужэнцы правялі ў шлюбе чатыры гады, калі ў жанчыны здарыўся першы зрыў. Яна прыраўнавала мужа да іншай жанчыны і ў запале ўдарыла яго нажом пад сэрца. Удар атрымаўся не смяротным, але звяртацца ў міліцыю муж не стаў. Вырашыў, што ўсё нармалізуецца. Праўда, праз чатыры гады здарыўся новы крызіс: жанчына тады таксама схапілася за нож — патрапіла ў пах. І зноў муж схаваў сапраўдную прычыну ранення. Прыняў яе раскаянне. Але ад крутога жончынага нораву рашыў аддаліцца: раз'ехаліся па розных кватэрах.

Праўда, жанчыны яго так проста адпускаць не стала — надумала забіць, каб атрымаць у спадчыну кватэру ў Брэсце і дом на вёсцы. Але спачатку хацела знайсці кілера для гэтай мэты. І знайшла. Праўда, пад выглядам кілера ёй падсунулі аператыўніка. З таго часу яе «вялі». Аператыўнік і параіў берасцейцы скарыстацца атрутай. Нават пераканаў яе, што праз некалькі гадзін пасля забойства атруты ў арганізме эксперты не знойдуць. Маўляў, надзейны метад. І парашок ёй перадаў. Праўда, аказаўся ён зусім бяскрыўдным.

У будні дзень жанчына і запрасіла мужа на пікнік. Парашок падсыпала ў крабавую салату. Тады яе і затрымалі.

Судзілі ж 49-гадовую жанчыну і за ранейшыя спробы зарэзаць мужа, пра якія стала вядома ўжо падчас расследавання. У выніку яна правядзе ў калоніі 16 гадоў. У яе таксама канфіскуюць маёмасць. А яшчэ абавяжуць выплаціць 50 мільёнаў рублёў кампенсацыі.

**СМ**

## Сцісла

### Даравала мужу, пакуль ён не забіў

47-гадовага жыхара Клецкага раёна вінавацяць у катаванні і забойстве: на працягу 2014—2015 гадоў з рэўнасці збіваў сваю жонку. Вонкі сям'я выглядала паспяховай, а насамрэч былі праблемы. Муж збіваў жонку, а тая маўчала, бо залежала грашова ад яго. Падчас чарговай сваркі ён зарэзаў жонку, пырнуўшы не менш за чатыры разы ў грудзі і шыю.

### Брат забіў брата

У Брэсце з зямлі дасталі целы 36-гадовай жанчыны і яе 48-гадовага мужа, якія ўлетку 2014-га зніклі без вестак. Целы сямейнай пары былі закапаны ў адрыне ля прыватнага дома на глыбіні 80 см. Па падазрэнні ў падвойным забойстве затрыманы 47-гадовы брат загінулага, які жыў разам з імі і часта сварыўся. Па словах затрыманага, падчас чарговага канфлікту ён ударыў брата секцыяй ад батарэі, ад чаго той памёр. У той жа дзень рукамі задушыў братавую.

### Пракурор павініўся

Следчы камітэт спыніў крымінальную справу, па якой адным з фігурантаў з'яўляўся былы пракурор Петрыкаўскага раёна. У кастрычніку 2014 пракурора затрымалі за незаконную лоўлю рыбы. Шкоду прыродзе ацанілі ў 49 мільёнаў рублёў. Яна цалкам кампенсаваная. Справа спынена ў сувязі з дзейным раскаяннем.

### Згвалціў 86-гадовую

Да трох гадоў пазбаўлення волі асуджаны 26-гадовы жыхар Гомеля, які згвалціў пенсіянерку. Мужчына віну прызнаў. Ён раней судзімы не быў, мае пачатковую адукацыю, не працуе. У калоніі будзе прымусова лячыцца ад алкагалізму.

### Паўтысячы свіней задыхнуліся праз халатнасць

Здарэнне адбылося ў лістападзе 2014. Тады на комплексе «Забалоцкі» Любанскага раёна ў выніку збою працы вентыляцыйнай сістэмы павысілася тэмпература і 536 жывёлін задыхнулася. Падчас расследавання Следчы камітэт высветліў, што прычынай здарэння стаў непрафесіяналізм работнікаў фермы. У дадатак начальнік свінакомплекса загадаў напярэдадні адключыць тры з чатырох вентылятараў — для эканоміі. Начальніка вінавацяць у службовай халатнасці.



www.gaigrodno

### Пратараніла сялібу

Увечары 15 мая п'яная жыхарка Вільні ўрэзалася ў вёсцы Рымдзюны Астравецкага раёна ў жылую хату. Ад удару будынак зрушыўся з падмурка прыкладна на метр. Жанчына не была прышпіленая рэменем бяспекі і ў стане комы шпіталізаваная. Высветлілася, што жанчына і яе муж прыехалі да сваякоў на хрэсьбіны дзіцяці. Адзначыўшы гэтую падзею, пасварыліся, яна села за руль... Стрэлка спідометра на аўто пасля аварыі застыла на адзнацы 140 кіламетраў у гадзіну (дазволена ж на гэтым участку толькі 40). Гаспадыня дома, якая спала, не пацярпела.

**КМ**

# Яўген Гальцоў: «Беларускую мову выратуе моладзь!»

Яўген Гальцоў — піяніст-віртуоз. І выкладчык фартэпіяна ў музычнай школе №1 Мінска, што на Залатой Горцы. Незвычайны выкладчык — ён выкладае па-беларуску. Мы завіталі да 26-гадовага музыкі і пагутарылі з ім.



Сёння некаторым асобам варта паслухаць «Ваенны рэквіем» Бенджаміна Брытэна і сур'ёзна задумацца

КІРЫЛА ХІЛЬКО

**Яўген Гальцаў:** Мая матуля фактычна ўсё жыццё іграла на фартэпіяна, для сябе. Калі яна грала, я, маленькі хлопчык, залазіў ёй на калені і слухаў...

**«НН»: Вашая матуля шмат часу вам прысвячала?**

**ЯГ:** Яна мной займалася. Гэта цяпер бацькі аддаюць дзяцей на выхаванне дзяржаўных устаноў.

**«НН»: Беларуская мова — таксама з сям'і?**

ЯГ: Не. Я вырас у рускамоўнай сям'і. Але ў нас не было шавінізму, матуля з вялікай павагай ставілася да беларускай мовы і культуры. Што цікава, мой брат вырас цалкам супрацьлеглым у сваіх поглядах чалавекам, хоць нават вучыўся ў беларускай школе.

**«НН»: Русафіл?**

ЯГ: Ну ёсць трошкі. Прычым да руска-ўкраінскага канфлікту з ім можна было неяк паразмаўляць ці паспрачацца, пасля ж стала невыносным. Таму я імкнуся гэтую тэму не закранаць.

**«НН»: Чаму?**

**ЯГ:** Нельга лезці са сваёй моваю ці пазіцыяй як з нажом да горла. Гэта толькі адштурхне чалавека. Наваколле і так спрыяе таму, каб ад беларушчыны аддаляліся.

**«НН»: Якім быў ваш уласны шлях да мовы?**

**ЯГ:** У мяне з'явілася беларускамоўная вучаніца. І гэта стала выклікам для майго гонару: я жыву ў Беларусі і што, не змагу выкладаць па-беларуску? І ведаеце, што мне больш за ўсё спадабалася ў гэтай беларускамоўнай сям'і, якія падштурхнулі мяне да мовы? Яны не патрабавалі, каб я выкладаў па-беларуску. Яны стварылі настолькі прыязны вобраз сябе як носьбітаў, што я не стрымаўся.

**«НН»: Вы памятаеце сваю першую беларускамоўную кнігу?**

**ЯГ:** Гэта былі вершы Геніюш. Ніколі асабліва не захапляўся вершамі, а Геніюш трошкі пачысціла мне мазгі.

**НН: Як вашы вучні рэагуюць на мову?**

**ЯГ:** Былі спачатку здзіўленні. Але звыкліся і праблем не бывае. Я не прымушаю іх адказваць мне па-беларуску, яны самі перыядычна спрабуюць гэта рабіць. Я хачу, каб дзеці ведалі, што беларуская мова — гэта натуральная мова, на якой можна размаўляць.

**«НН»: Дык Вы лічыце, што катэгарычна патрабаваць выхавання па-беларуску не апраўдана?**

ЯГ: Калі падтрымліваць такую катэгарычнасць — можна скаціцца ў гвалт, але адсутнасць катэгарычнасці прыводзіць да таго, што на табе ўсё жыццё будуць ездзіць. Пытанне цяжкае.

**«НН»: У чым вы самі найбольш прынцыповы?**

ЯГ: Прынцыповым трэба быць у прафесійнасці. Гэта не кранае мовы. Беларускую мову можа выратаваць моладзь — прафесіяналы ў сваёй справе. Не папулісты, якіх хапае. Бо калі ж да мовы і яе ратавання звяртаюцца тыя, хто акрамя размоў пра яе занепад і праблемы больш нічога рабіць не ўмее, гэта яе толькі маргіналізуе.

**«НН»: Апошнім часам бацькі не так часта аддаюць дзяцей у музычную школу.**

ЯГ: Бо гэта не тая сфера ў якой ты можаш шмат зарабляць, а тым больш стаць зоркай у Беларусі.

**«НН»: Ёсць людзі, якія лічаць, што яна забірае дзяцінства. Бо сапраўды вымагае шмат часу.**

ЯГ: Калі думаць так пра дзяцінства, дык можна скаціцца да таго, што дзеці і ў школу не мусяць хадзіць, а толькі гуляцца дома ці на вуліцы. Праблема сучасных дзяцей, у адсутнасці разумення таго, навошта яны займаюцца і чаго яны хочуць дабіцца. Няма вось гэтага стрыжня.

**«НН»: А што дае музычная школа?**

ЯГ: Уменне слухаць і чуць, чаго нам так не хапае ў жыцці. Што можа быць лепш, чым навучыцца чуць?

**«НН»: Якія Вашы любімыя музычныя творы?**

**ЯГ:** Усяго не пералічыш. «Добра тэмпераваны клавір» Баха, напрыклад, сапраўды музыка на ўсе часы. Зараз вучу эцюды Шапэна Op. 10, іх таксама люблю. Шаную «Ваенны рэквіем» Бенджаміна Брытэна. Дарэчы, сёння некаторым асобам варта было б яго паслухаць і сур'ёзна задумацца. Праўда, для гэтага трэба добра разумець англійскую мову і прынамсі ведаць, што азначаюць лацінскія выразы «Dies irae» або «Agnus Dei», а гэта можа быць праблемай.

**«НН»: Аднойчы я чула, як Вы выконваеце Грушвіцкага і Агінскага. Гэта было адкрыццё для мяне. Каго яшчэ з беларускіх кампазітараў Вы граеце? Каго з беларускіх кампазітараў Вы раіце «адкрыць»?**

**ЯГ:** Граю пераважна сучасных. Наконт «адкрыць», я пакуль што сам у пошуку. Справа ў тым, што, так бы мовіць, воляй лёсу і іменем Сталіна беларусы сталі шчыра верыць, што беларуская музыка была створаная ў 1917 годзе. Таму сёння даводзіцца прыкладаць пэўныя намаганні, каб аднавіць гістарычную праўду. Вось адкрылі Грушвіцкага, Ельскага, паступова вяртаюцца Агінскі, Манюшка. Думаю, галоўныя адкрыцці яшчэ наперадзе!

**«НН»: Чаму адны людзі становяцца геніяльнымі піяністамі, скрыпачамі, іншыя — не? Гэта ад Бога? Ці ад працавітасці? Ці ад даўжыні пальцаў?**

**ЯГ:** Ад усяго разам. Але не было б Рахманінава без настаўніка Зверава, які штодзённа, акрамя нядзелі, садзіў яго займацца за фартэпіяна на 6 гадзін. Гэтак жа без Леапольда Моцарта не было б Вольфганга Амадэя. Вялікі поспех дасягаецца толькі праз вялікія намаганні.

**«НН»: Можна адно такое рамантычна-ўзвышанае пытанне? Чым каханне музыкі адрозніваецца ад кахання простага чалавека?**

**ЯГ:** Каб наблізіцца да разумення гэтага, трэба паслухаць адпаведныя творы Шапэна, Шумана, Брамса, Чайкоўскага, Рахманінава ды іншых выбітных кампазітараў у добрым выкананні. А кожны слухач няхай сам знойдзе свой адказ.

**Гутарыла Вольга Гарапучык**

**Як у вас з логікай?**

## Над гэтымі галаваломкамі думае ўвесь свет. Ці зможаце разгадаць Вы?

**Галаваломка ад Белага дому**

У афіцыйным блогу Белага дома 17 мая з'явілася галаваломка, над вырашэннем якой інтэрнаўты б'юцца дагэтуль. Яе апублікаваў Эд Фэлтан, намеснік дырэктара па тэхналогіях адміністрацыі Барака Абамы, каб нагадаць пра высілкі адміністрацыі Абамы па камп'ютарызацыі школ ды пра тое, што праграмаванне — гэта не толькі напісанне коду, але і вырашэнне лагічных задач.

**Умовы задачы:**

*Боб і Эліс гуляюць у гульню. Яны выйграюць ці прайграюць разам. Перад пачаткам гульні яны могуць дамовіцца пра стратэгію, але, калі гульня пачнецца, яны разыдуцца па ізаляваных пакоях і не змогуць ніяк кантактаваць.*

*Калі гульня пачынаецца, яны падкідваюць манеткі і занатоўваюць, што выпала — арол ці рэшка. Эліс спрабуе адгадаць, што выпала ў Боба, а Боб — што выпала ў Эліс. Свае здагадкі яны запісваюць.*

*Калі хоць адзін з іх адгадаў, што выпала ў іншага, выйграюць абое. Калі не адгадалі абое — каманда прайграе.*

*Задача — сфармуляваць такую стратэгію, пры якой каманда выйгравала б заўсёды.*

Напрыклад, калі і Боб, і Эліс будуць штораз запісваць «арол», яны выйграюць толькі ў 75% выпадкаў. Такі адказ няправільны. Хлусіць і падраблядь вынікі падзення манет — не варыянт. Правільны адказ шукайце ў каментарах да артыкула на сайце nn.by.

**Лагічная задача для сінгапурскіх школьнікаў**

Месяц таму палова інтэрнэту, у тым ліку чытачы nn.by, спрабавалі рашыць задачу са школьнай алімпіяды ў Сінгапуры.

**Умовы задачы:**

*Альберт і Бернард пазнаёміліся з Шэрыл. Яны хочуць ведаць, калі ў яе дзень нараджэння. Шэрыл прапанавала ім дзесяць магчымых дат: 15 мая, 16 мая, 19 мая, 17 чэрвеня, 18 чэрвеня, 14 ліпеня, 16 ліпеня, 14 жніўня, 15 жніўня і 17 жніўня. Яшчэ Шэрыл сказала Альберту месяц свайго нараджэння, а Бернарду — дзень.*

*Пасля гэтага адбыўся дыялог.*

*Альберт: «Я не ведаю, калі ў Шэрыл дзень нараджэння, але я ведаю, што Бернард таксама не ведае».*

*Бернард: «Спачатку я не ведаў, калі ў Шэрыл дзень нараджэння, але ведаю цяпер».*

*Альберт: «Цяпер я таксама ведаю, калі ў Шэрыл дзень нараджэння».*

*Калі ў Шэрыл дзень нараджэння?*

Рашэнне задачы можна знайсці ў адпаведным артыкуле на nn.by.

**Аляксандр Арсёнаў**

**Мікалай Пінігін** паставіў у Купалаўскім спектакль-канцэрт «Другая сусветная» паводле песень **Марка Мермана**.

# «Другая сусветная» з аркестрам і танцамі

Новая пастаноўка Купалаўскага ўдалася і «стрэліла». З усіх спектакляў Мікалая Пінігіна, пастаўленых пасля яго прыходу ў тэатр у якасці мастацкага кіраўніка, «Другая сусветная» асабіста мяне натхніла найбольш.

Дарэчы, песні выконваюцца на мове арыгіналу — па-руску. Гэта першы спектакль у рэпертуары Купалаўскага, у якім дамінуе руская мова. Калі гаворка ідзе пра падзеі вайны, мы прызвычаіліся: са сцэны прагучаць бяспройгрышныя хіты савецкага часу — ад «Довоенного вальса» да «Дня Победы». Найлепшыя тэксты Мермана не саступаюць ім. Савецкія хіты адлюстроўвалі падзеі менавіта Вялікай Айчыннай вайны, настроі і пачуцці людзей, якія ваявалі на савецка-германскім фронце. Марк Мерман вядзе гаворку пра Другую сусветную вайну. «Савецкі Саюз узяў на сябе асноўны цяжар вайны, — кажа са сцэны актрыса Вікторыя Чаўлытка. — Але гэта была Другая сусветная вайна. Гэта была глабальная катастрофа. Пра гэта наш спектакль».

Акрэсленай мэце адпавядае агульная кампазіцыя, у якой адчуваецца ўнутраная логіка. Адной з першых гучыць песня «Дваюрадная мова» ў выкананні Алены Сідаравай. Гаворка пра Польшчу (Другую Рэч Паспалітую) і пра пачатак Другой сусветнай вайны ў 1939-м. У канцы спектакля гучаць песні пра лёс Саламона Міхоэлса (забітага ў Мінску ў 1948), пра людзей, якія зрабіліся калекамі, пра пасляваеннае аднаўленне Мінска. Кола замыкаецца. А ў цэнтры пастаноўкі знаходзяць адлюстраванне самыя розныя па настроі і гучанні падзеі Другой сусветнай.

Тэрыторыя ваенных дзеянняў у творах Мермана ахоплівае Усходнюю і Заходнюю Еўропу, Афрыку (песня «Эль-Аламейн» прысвечаная вырашальнай бітве на поўначы кантынента паміж саюзнікамі і немцамі), а таксама Паўночную Амерыку (герой кампазіцыі «Стары ў Заходнім Бронксе» згадвае мінулае). Дзейныя асобы песень — Міхоэлс і Чэрчыль, Рыфеншталь і Сэнт-Экзюперы, Арлова і Уцёсаў. Такім чынам у пастаноўцы знікае ранейшы вузкі і ў нечым ідэалагізаваны падыход, пры якім вайна трактавалася выключна як падзея з савецкай гісторыі. Узнікае адчуванне судакранання з агульнасусветным змаганнем. Яно дапаўняецца ўдала падабранай кінахронікай і плакатамі часоў Другой сусветнай (мастак-пастаноўшчык — Барыс Герлаван, стваральнік відэакантэнту — Сяргей Тарасюк). Гэтыя складнікі дапамагаюць перадаць агульную атмасферу ваенных гадоў. А таксама наўпрост рэалізуюць на практыцы ідэю асветніцтва — адзін з ключавых пунктаў пінігінскай праграмы, які паслядоўна ўвасабляўся ў «Тэатры Уршулі Радзівіл», «Месточковым кабарэ» і «Пане Тадэвушу». Прычым гэтым разам — найбольш паспяхова і па-мастацку пераканаўча.




Яшчэ адна істотная рыса — унутраная адпаведнасць паміж характарам акцёра і песнямі, якія ён выконвае. Усходнія, ісламскія матывы адчуваюцца ў выкананні Паўлам Харланчуком песні «Аль-Аламейн». Яго спевы часам нагадваюць крык, што гучыць над пустыняй з вышыні мінарэта. Песня «Штрафныя душы», якую ўвасабляе Ігар Сігоў, наогул нагадвае перадсмяротны хрып салдата, асуджанага на смерць. Зоя Белахвосцік, перад тым як выканаць песню «Памяці Саламона Міхоэлса», расказвае, як знакамітага артыста за некалькі дзён да смерці запрасіў у госці яе дзядуля Глеб Глебаў, славуты купалавец. Яе спевы ствараюць атмасферу трагедыі — як асобнай сям'і, так і ўсёй краіны.

На ўзроўні былі ўсе іншыя артысты (з тых, каго не называў раней, — Ганна Хітрык, Віктар Манаеў, Марта Голубева, Валянціна Гарцуева, Святлана Анікей, Аляксандр Казела). На спектакль заяўлены ўсяго адзін склад (толькі песня «Светлы шлях» мае двух выканаўцаў — Зою Белахвосцік і Генадзя Гарбука).

На агульны поспех паўплываў шэраг прадуманых мізансцэн, простых, але характэрных дэталяў. Вось Алена Сідарава выходзіць на сцэну з валізкай. Бо яна эмігрантка, якая мусіць пакінуць Польшчу, заваяваную немцамі. Або Павел Харланчук высыпае з кішэняў пясок. Магчыма, ягоны герой быў засыпаны пры выбуху.

Спектакль «Другая сусветная», ненавязлівы і не дыдактычны, пераконвае, што нават у пачатку XXI стагоддзя можна нечакана і па-новаму адлюстраваць падзеі Другой сусветнай вайны. І музыкай, і паэтычным словам.

**Дзяніс Марціновіч, budzma.by**

## Сцісла

### Гурт Brutto запісаў новы альбом

Лідар гурту Сяргей Міхалок кажа, што цяпер новы альбом зводзяць: «Зробім такое, каб здзівіць саміх сябе». Па словах Міхалка, ён збіраецца вярнуцца да больш глыбокіх тэкстаў, якія пісаў раней: «Далей строіць з сябе Агнію Барто і пісаць знарочыста прымітыўныя тэксты я не буду. Я вярнуся да той паэзіі, якая мне блізкая. Я вярнуся да нейкіх метафар, і гэта будзе падобна да «Жалезнага» ці «Воінаў святла». Гэтага мне, як аўтару, хочацца».

### «Ведзьмака» абвінавацілі ў сэксізме і расізме

Чаму ў фэнтэзійным сярэднявеччы Анджэя Сапкоўскага няма чорных, але б'юць жанчын? Відэагульня The Witcher 3: Wild Hunt паводле серыі раманаў Анджэя Сапкоўскага «Сага пра ведзьмака» атрымала лавіну крытыкі. У «Дзікім паляванні» няма ніводнага чарнаскурага, адзначаюць крытыкі. Затое плойма паўаголеных жаночых персанажаў ды шэраг ворагаў жаночага полу. Дырэктар чэшскай студыі Warhorse, што распрацоўвае гульню, патлумачыў, што сусвет «Ведзьмака» адлюстроўвае «фэнтэзійную Польшчу», а ў Польшчы з 1300 па 1500 год задакументавана «толькі тры чорныя рабы». Цыкл раманаў польскага пісьменніка Анджэя Сапкоўскага «Сага пра ведзьмака» пачаў выходзіць з 1986. Кнігі распавядаюць пра ведзьмака Геральта, паляўнічага на монстраў. Па матывах кніг у 2002 годзе выйшаў папулярны польскі тэлесерыял «Вядзьмак».

### У Беларусь прылятуць Imagine Dragons

Канцэрт амерыканскага інды-рок-гурту пройдзе 22 студзеня 2016 года на «Чыжоўка-арэне» ў Мінску. Imagine Dragons прывязуць у Беларусь свой хітовы альбом «Smoke + Mirrors», з якім дадуць сотню канцэртаў у Паўднёвай і Паўночнай Амерыцы, Азіі, Аўстраліі і Еўропе, а таксама выканаюць старыя хіты. Квіткі на канцэрт каштуюць ад 465 да 965 тысяч. Гурт Imagine Dragons у 2012 годзе атрымаў «Грэмі» і 5 узнагарод Billboard Music Awards за альбом Night Visions.

### Святлана Алексіевіч атрымала ў Варшаве прэмію імя Капусціньскага

Прэстыжная літаратурная прэмія імя Рычарда Капусціньскага ўручаецца за найлепшы літаратурны рэпартаж, перакладзены на польскую мову. Ёй адзначылі за кнігу «Час сэканд-хэнд», якая нядаўна выйшла па-польску. 14 мая Алексіевіч правяла ў польскай сталіцы сустрэчу з чытачамі. Прыйшлі сотні людзей. Сярод публікі прысутнічаў і прыхільнік самаабвешчанай «ДНР», сталы мужчына ў чырвона-белым гальштуку, які ўсю сустрэчу выкрыкваў лозунгі за вольны Данбас, пакуль яго не вывелі.

### Расійскі «Телевізор»: «Ты прості нас, Украіна»

Расійскі рок-гурт «Телевізор» прадставіў песню «Ты прості нас, Украіна». Гурт выказаў спачуванне з нагоды ваеннага канфлікту і выбачыўся за дзеянні Пуціна. «Ты прості нас за Крым і за Донбасс. Все протесты і мітінгі зря, мы вскормілі в Кремле упыря», — пяецца ў песні.

### Анатоля Кудраўца ўспомнілі ў Мінску

У гадавіну па Анатолю Кудраўцу — пісьменніку, рэдактару, публіцысту — блізкія, сябры і калегі-творцы сабраліся ўшанаваць памяць Анатоля Паўлавіча, а таксама прэзентаваць яго празаічную кнігу «Зязюля пракукуе заўтра». Мемарыяльны вечар быў арганізаваны сваякамі літаратара і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў». Сустрэча праходзіла ў камернай, амаль сямейнай абстаноўцы, без шырокай публікі, таму выступоўцы мелі магчымасць выказацца непасрэдна, без аглядкі на ўмоўнасці. Успаміналі пра сяброўскія «размовы на кухні» з Анатолем Кудраўцом, згадвалі глыбока асабістыя моманты.

**АА**

Казка дзяцінства. Піша **Вінцэсь Мудроў.**

# Вятрак

— Бачыш лясок? За ім ужо была Польшча.

Мішка Марыновіч зацягваецца цыгарэтай, ціснe на газ, і спіна Сцяпанава ўціскаецца ў прыслон сядзення.

Цёмна-зялёная сцяна, якая здалёк выглядала ўзлессем пушчы, паўстала паласой высозных елак.

Мішка перахоплівае Сцяпанаў позірк, торгае галавой.

— Палякі ўздоўж мяжы лес садзілі. Не ведаю, дзеля якой халеры. Відаць, каб Саветаў не бачна было. Тыя ўздоўж мяжы на трактарах ездзілі ды песні спявалі. Аматары былі... пускаць чмуру ў вочы.

Мішка мацюкаецца і распавядае пра свайго дзеда Ахрэма, які ў маладосці садзіў тыя самыя елкі і за атрыманыя грошы справіў сабе новы гарнітур.

Дагэтуль машыну — чорны Jeep Commander — добра трэсла, а тут раптам паехалі па раўнюткай шашы, і матор ужо не азываўся абуранымі абертонамі на пад'ёмах дарогі.

— Мяжа і цяпер адчуваецца, — Мішка топіць понаж газу — і стрэлка спідометра паўзе да адзнакі 110 кэмэ. — Іншы раён, іншыя гаспадары, іншыя дарогі.

Сцяпан салодка пазяхае, заплюшчвае вочы і згадвае, калі апошні раз выпраўляўся на рыбалку:

— Дык, кажаш, і язі вядуцца, і акуні?

— Калі на вуду нічога не зловім, у швагра сетка ёсць. Так што не хвалюйся — без рыбы не вернешся.

На роўнай шашы Сцяпана пачаў адольваць сон. На чарговым павароце ён ачуўся, страсянуў галавой і ўтаропіўся на дзіўную драўляную спаруду, што праплывала за вакном. Шэрая, стромкая, яна пнулася ўгору сваім вострым дахам, і вечаровае бясколернае неба мякка свісцілася ў шчылінах збуцвелых дошак.

— Што гэта? — выдыхнуў Сцяпан, і Марыновіч, не павярнуўшы галавы, прамармытаў:

— Вятрак быў. Згніў увесь — не сёння, дык заўтра паваліцца.

— А ну спыні! — з панікай у голасе выдыхнуў Сцяпан, схапіў Марыновіча за локаць, і той, на поўнай хуткасці, ударыў па гамульцах.

Джып матлянуўся і, заехаўшы пярэднім колам у прыдарожную канаву, спыніўся.

— Цьфу, бляха... ледзь не перакуліліся, — Мішка даў задні ход, выцер рукавом лабаціну.

— Паглядзець хачу, — вінавата выдыхнуў Сцяпан, вылазячы з машыны.

...Млын стаяў на пакручастым пагорку і Марыновіч, які ішоў ззаду, злёгку засопся.

— Пасля вайны... бацька казаў... яшчэ малолі... А потым стаяў... закінуты, — гукаў Мішка, не дабіраючы розуму, на якую халеру сябру спатрэбілася гэтае ламачча. — Летась адно крыло яшчэ трымалася, а цяпер і яно адвалілася.

Крыло ляжала ўпоперак пагорка і было падобнае на пяро аграмаднай дагістарычнай птушкі.

— Мы падлеткамі, памятаю, на іх круціліся. Схопішся за крыло — цябе і падымае ўгору. Аднойчы вось так узняўся на самую верхатуру, а сябрукі другое крыло затрымалі — я і захрас там, нагамі боўтаючы. Стаў спускацца. А дрэва збуцвелае — усе рукі былі ў стрэмках, — задыхаха, хуткагаворкай, распавядаў Марыновіч, тым часам як Сцяпан, прыпаўшы на калена, мацаў рукою падгнілую дранку, якой было абабітае млынавое крыло.



У самім млыне панаваў маккі прыцемак і пахла мышамі. На доле дошкі згнілі, пазбавіўшы вятрак апірышча, і даводзілася толькі дзівіцца — якім чынам ён яшчэ стаіць на зямлі.

— Галоўны вал, — Мішка паляпаў далонню па таўшчэзным стаўбуры, — на ім усё і трымаецца. Вунь, бачыш, драўляныя шасцерні, — Марыновіч тыцнуў пальцам угору, — крылы іх круцяць, а яны вал варочаюць. А пасярэдзіне вала — вунь, зірні — яшчэ адна шасцярня, якая жарон круціла.

Каля самай сцяны ляжаў расколаты напалам каменны блін. Сцяпан прысеў на кукішкі, змахнуў рукой пыл, і на шурпатай паверхні яскрава адбіліся лічбы: «1914».

— Год вырабу. Відаць, жарнасек выбіў, — Марыновіч таксама прысеў на кукішкі, правёў рукой па камені. — Адразу бачна — гэта ніжні жарон. Ён быў нерухомы. Круціўся толькі верхні.

— Шкада, раскалоўся, — уздыхнуў Сцяпан, ды з такім жалем, што здзьмуў пыл з краю каменнага бліна.

— Збіраешся млын запусціць? — хмыкнуў Марыновіч і абабіў далоні. — Калі жарон расколваўся, яго жалезнай рэхвай сцягвалі і далей малолі. А новы зрабіць было не так і проста. Не ўсякі камень падыходзіў. Скажам, з граніту не рабілі — шукалі кварцавы, маккі. Уяўляеш, колькі працы было жарнасекам? Знайдзі камень, прывязі — ды не на машыне, а на конях, — абчашы ды яшчэ на рабочую паверхню барозны насячы. Памацай жарон знізу... там павінны быць разоркі набітыя.

Хвілін праз пяць сябры вылезлі з млына.

— Хочаш перацягнуць на аграсядзібу? — Марыновіч укінуў у рот цыгарэту — паліў ён выключна «данхіл» у зялёных пачках.

Сцяпан не адказаў. Ён памружыўся на зыркае сонца — вочы, пакуль былі на млыне, звыкліся да прыцемку — ды так і замёр, пазіраючы з-пад рукі на абрубкі млынавых крылаў. Сцяпан пра штосьці думаў, а можа, пра штосьці марыў, — і ачуўся толькі тады, як сябар, ужо стоячы ля джыпа, засвістаў яму ў чатыры пальцы.

Ноч выдалася цёплай і душнай. Сястра паслала брату на вышках, а ягонаму госцю ў хаце, але Сцяпан, узяўшы бялізну ў ахапак, таксама падаўся на вышкі. Выпілі, вядома, як мае быць, і на свежым паветры хмель павінен быў хутка выпетрыцца, пагатоў, і спаць заставалася нейкія тры гадзіны: а палове пятай марыновіцкі швагер паабяцаў іх абудзіць.

Сцяпан ляжаў, закінуўшы рукі за патыліцу, раз-пораз біў далонню па лбе, забіваючы камароў, і згадваў, як у дзяцінстве быў апанаваны ветранымі млынамі. Яму нават здавалася, што, калі б ён быў немаўлём і яшчэ не ўсведамляў сябе жывой істотай, пабачыў вятрак, і відарыс той няўклюднай драўлянай гаргары захрас у спратах памяці. А можа, проста ўбачыў малюнак млына ў дзіцячай кніжцы. Ветракі не давалі спакою юнай душы. Ён па некалькі разоў запар глядзеў фільмы, дзе іх паказвалі, распытваў пра ветракі дарослых, нарэшце пра такое дзіўнае захапленне даведаліся аднагодкі і пачалі з яго кпіць. Аднойчы, на навагоднім ранішніку, аднакласнікі атачылі яго шчыльным колам і, б'ючы ў ладкі, заспявалі: «Ветряная мельница, попляши, попляши...» А яшчэ ён набыў сабе альбом для малявання і стаў наклейваць там малюнкі млыноў, якія выразаў з часопісаў і кніжак. Прыгожыя былі малюнкі. Яны і цяпер стаяць уваччу... прысадзістая казлоўка, што паварочвалася насустрач ветру ўсім корпусам; шатроўка — высокая будыніна з даўжэзным паваротным вагаром; галандка — каменная вежа з празрыстымі, як у стракозы, крыламі... Але асабліва яму падабаўся нехлямяжы, выразаны з нейкай казкі, вятрак, які нагадваў хаціну Бабы-карготы.

Але за ўсё сваё доўгае жыццё ён так і не ўбачыў дзейнага млына. Дый і закінутых не бачыў, бо яны, як казалі бацькі, згарэлі падчас вайны, а тыя, што не згарэлі, людзі разабралі на дровы.

Забіўшы чарговага камара, Сцяпан пачаў прыкідваць, ува што абыдзецца перавозка і аднаўленне ветрака. Сякіятакія грошы ў яго валіся, але, відаць, давядзецца яшчэ пару тысяч даляраў пазычаць. Сцяпан уздыхнуў і пакасіўся на Мішку Марыновіча, які хроп поруч. У Мішкі грошай — сабакі не ліжуць. Тры крамы мае, а надоечы яшчэ і кавярняй разжыўся.

Марыновіч быў ягоным даўнім сябрам. Разам вучыліся ў політэхнічным інстытуце і жылі ў адным інтэрнацкім пакоі. Пасля Мішка адпрацаваў пяць гадоў на «Гарызонце», а потым пайшоў па камсамольскай лініі. На пачатку дзевяностых, калі ўсё ў краіне развальвалася, хапануў камсамольскую касу і разгарнуўся як кааператар. Гэта толькі дзякуючы інстытуцкаму сябру ён, Сцяпан, і заняўся агратурызмам. Мішка з некім там дамовіўся, дапамог узяць крэдыт, ды і грошы свойчас пазычаў. Можа? і цяпер дапаможа.

Ратуючыся ад камарэчы, Сцяпан з галавой накрыўся прасцінай, уявіў на імгненне млын, што махаў крыламі поруч з аграсядзібай, і шчасна заплюшчыў павекі.

Раніцою марыновіцкі швагер спрабаваў іх абудзіць — нават тыцкаў вяслом у пяткі, — але марна. Госці спалі як пшаніцу прадаўшы, і на рыбалку выправіліся толькі а восьмай гадзіне.

З хворай галавой, з азызлым, пакусаным камарамі тварам, Сцяпан залез у пласкадонку і змучана перавёў дых.

— Нічога, на вадзе пахмялюга хутка развеецца, — выгукнуў Мішкаў швагрусь, адпіхнуўшы лодку ад берага, і памахаў ім рукой. Сам ён рыбаліць адмовіўся, сказаўшы, што такім часам рыба не бярэцца.

Мішка сеў на вёслы, і Сцяпан, каб разагнаць соннае мроіва, падхапіў далонню вады, пляснуў на твар.

— Як ты думаеш, ён дзенебудзь на балансе значыцца?

— Хто? — азваўся Мішка Марыновіч і агледзеўся, маракуючы, ці не пара закідваць вуды.

— Ды вятрак, — з ноткамі незадавальнення ў голасе прамармытаў Сцяпан.

— Ды які там баланс! Прагніў навылёт і крылы адваліліся. Пад'язджай на трэйлеры, пажадана ўночы, загружай — і дуды ў торбу.

— А калі гэта помнік архітэктуры і знаходзіцца пад аховай дзяржавы? А цягнуць давядзецца ў іншы раён і нават у іншую вобласць. Гаспадарам можа не спадабацца.

— Ты што, не ведаеш як такія справы ўлагоджваюцца? Цюку ў руку, і вятрак твой, — папляваўшы на чарвяка, Мішка закінуў вуду і паківаў узнятым пальцам, патрабуючы цішыні.

— Ну, а калі ўсё рабіць па закону, — напаўголаса, амаль шэптам, выдыхнуў Сцяпан, размотваючы вуду, — куды трэба звяртацца?

— Напачатку ў сельсавет, — адказаў сябра, не адрываючы вачэй ад плыўка. — Але там нічога не вырашаюць.

Накіруюць у раён, бо сельсавет нават дзіравае вядро без санкцыі зверху спісаць баіцца. У раёне цябе ўважліва выслухаюць, запішуць тваю просьбу ў перакідным календары і прапануюць у Міністэрства культуры звярнуцца. Каб высветліць — ці не з'яўляецца вятрак аб'ектам культурнай спадчыны. Потым... — Мішка асекся, тузануў вудзільна, і ля самага ягонага носа мільганула, бліснуўшы срэбнай луской, ладная рыбіна. — Йоп... сарвалася! А ўсё з-за тваёй балбатні, — Мішка падскочыў на ногі і лодка, небяспечна нахіліўшыся, чарпанула вады. — Хутка на дно пойдзем з тваім вятраком, — Мішка з пахмелля быў не ў гуморы.

Колькі часу сядзелі моўчкі, паныла паглядаючы на рухавыя плыўкі. Нарэшце Мішка, прымірэнча зазначыў:

— Марны гэта занятак — хадзіць па дзяржустановах. Ды яны гэты вятрак хутчэй спаляць, чымся табе аддадуць. Для іх ты хто? Уладальнік аграсядзібы? Ды не — ты міраед, куркуль, які прагне прысабечыць народную ўласнасць. Я ж табе распавядаў, як хацеў са старой камяніцы піўбар зрабіць. Дакументацыю падрыхтаваў, усё скрозь узгадніў, пячаткі сабраў. А выканкам — опс! — не дае дазволу. Кажуць, паводле генплана дом той на знос ідзе. І што ты думаеш — знеслі! Сярэдзіна дзевятнаццатага стагоддзя, кожная цагліна з тычковым кляймом...

— А можа, застанёмся да заўтра? — перапыніў Сцяпан Мішкаву балбатню. — Я ў сельсавет забягу. А там, можа, і ў раён злётаем. Тут жа недалёка.

— Эх, Сцёпа... калі б ты ведаў — якіх я круцялёў у сваю кавярню набраў! На хвілю адвядзі вочы — сталы з крэсламі павыносяць. А за тры дні, дык і мётлы пакрадуць, — уладальнік кавярні знянацку змоўк, гламаздаватая галава ягоная падалася наперад, дрогкія рукі тузанулі вуду і над вадой шалёна затрапятаў, натапырыўшы плаўнікі, вялізны акунь.

Наступнай раніцы сябры заехалі ў суседні аграгарадок, дзе месціўся сельсавет, і ўвайшлі ў цагляны дамок з выцвілым чырвона-зялёным сцягам над уваходам.

Старшыня, мужчына сярэдняга веку ў пакамечаным пінжаку, дарэшты рабацiністы і са слядамі пахмелля на твары, выслухаў наведнікаў, памацаў няголенае падбароддзе і паныла прамовіў:

— Я тут толькі другі тыдзень працую, ветрака таго нават не бачыў. Так што вам лепш у раён звярнуцца.

Парукаўшыся са старшынёй, сябры выйшлі ў пусты калідор, і Марыновіч, няшчыльна прычыніўшы дзверы кабінета, тузануў Сцяпана за рукаво і прыклаў палец да вуснаў. Яны наструнілі слых і пачулі, як рабацень, керхануўшы, пачаў некаму дакладаць па тэлефоне.

— Іван Іванавіч? Гэта Фандзюшын турбуе. Тут да мяне прадпрымальнікі прыходзілі... Не, не нашы... аднекуль з-пад Слуцка... Прыгледзелі нейкі вятрак... хочуць у свой раён перавезці... дык я іх да вас накіраваў... Што? — старшыня на хвіліну аціх, слухаў, відаць, Івана Іванавіча, пасля чаго павайсковаму гучна выдаў:

— Слухаюся! Усё будзе зроблена!

— Чуў? — запытаўся Марыновіч, калі яны селі ў машыну. — Казаў жа — наймай людзей, падганяй трэйлер — і наперад.

— Дык мы ж сябе выдалі. Рабацень адразу ўцяміць — хто вятрак скраў.

— Ну ўцяміць, і што? Папершае, мы ніякіх сваіх рэквізітаў не пакінулі, а падругое, ніхто нас з-за той кучы гнілых дошак шукаць не будзе, — Мішка пляснуў сябра па калене. — Сцёпа-а, кепска ты ведаеш выканаўчую вертыкаль. Ды там ніхто без дай прычыны і саломіны не пераломіць, — Марыновіч завёў рухавік. — Давай яшчэ вуды закінем. А то прыехалі на рыбалку, а рыбы на палову патэльні не злавілі.

Наступным днём, ужо а пятай раніцы, яны былі на возеры. Спачатку лавілі на вуду, а потым і сетку закінулі. Справа для іх была новай, і Сцяпан, выбіраючы акунёў з мярэжы, траха не кульнуўся за борт, а Мішка — калі хапаў сябра за каршэнь, — утапіў у возеры «мабільнік». Але затое ўлоў быў такі, што забілі акунямі ўвесь багажнік.

Дахаты гналі з ветрыкам: стаяла спёка, і рыбу трэба было тэрмінова кінуць у лядоўню. Кіламетраў пяць ехалі моўчкі, а потым, чытаючы Сцяпанавы думкі, Мішка паддаў хуткасці і выдыхнуў:

— Добра, пазычу табе грошай. Але ж ад таго праекта ніякага прыбытку. Ну паставіш ты млын на аграсядзібе, ну прыедуць людзі... ну прывязуць дзяцей ды ўнукаў... паглядзець, як гэтае прадзедаўскае дзіва працуе. І што? Будзеш грошы браць за ўваход?

— Ды не, браце, буду муку, што намелецца, прадаваць.

— Мяхамі? — хмыкнуў Марыновіч.

— Не, дэкаратыўнымі мяшэчкамі, з далонь велічынёй. І на кожным — відарыс ветрака і надпіс «Гайцюкоўскі млын», аграсядзіба ж мая «Гайцюкі» называецца.

— Ведаеш, а гэта ідэя. Я б да такога ніколі не дадумаўся, — прамовіў Марыновіч і скінуў хуткасць, бо пад'язджалі да млына.

Прамінуўшы мост, сябры разам павярнулі галовы і Мішка, як і мінулым разам, ударыў па гамульцах і адчайдушна выдыхнуў:

— Опа-а...

Млына на пагорку не было. На тым месцы, дзе ён пазаўчора падпіраў спічаком гарачае неба, вуркатаў «беларус» з прычэпам.

Сябры ўзняліся на пагорак.

Усё наўкол было закідана ашмоццем гнілых дошак, а пасярод пяшчыстага квадрата — месца, дзе стаяў вятрак — ляжала бензапіла Shindaiwa.

— До-обрыя дро-оўцы, — дрогкім голасам казаў вусаты бамбіза, што завіхаўся на прычэпе, прымаючы важкія цурбаны.

— А каму дровы? — запытаўся Марыновіч бамбізу.

— Германенку, — адказаў вусач.

— А хто гэта такі?

Бамбіза зыркнуў на Мішку са здзіўленнем і лёгкім дакорам, маўляў, як гэта так — жыць і не ведаць хто такі Германенка?

— Наш участковы.

— Зразумела, — буркнуў Марыновіч, ступіў колькі крокаў і прыпаў на калена.

— Бывай, брат, — ляпнуў ён па расколіне жарона.

Хуткім крокам, не азіраючыся, яны пайшлі да машыны.

Калі праехалі пару кіламетраў, Мішка, перадражніваючы вусатага бамбізу, прамовіў:

— До-обрыя... дро-оўцы... цьфу, б..., што за людзі, — Марыновіч прыпаліў цыгарэту, дыхнуў духмяным дымам. — Продкі пабудавалі — дык захавай, перадай нашчадкам. Не, трэба ўсё спаліць, распілаваць і спляжыць. У Літве вунь — усё захавана... і замкі, і касцёлы, і ветракі.

Галава Сцяпанава была пустой і лёгкай. Ён слухаў Мішку, але не разумеў, аб чым той балбоча. Сябар між тым загаманіў пра спляжаную камяніцу, у якой калісьці была першая ў горадзе аптэка, пра старую вадавежу на вакзале, якую ўзарвалі пазалетась, нарэшце голас Мішкаў пацішэў, аддаліўся, машына прамінула былую мяжу, страсянулася, і Сцяпан, расплюшчыўшы вочы і змагаючыся з рэшткамі сну, схапіў сябра за рукаво. Яму падалося, што зараз, з-за бліжэйшага павароту, вытыркнецца, махаючы крыламі, нехлямяжая, падобная на хату Бабы-карготы напаўзабытая казка дзяцінства.



# Цялёнак

Успамінае Мікола Нікалаеў.




Нянькоўская мова адрознівалася ад школьнай беларускай мовы тым, што замест літаратурнага «а» тут часта казалі «о», нават у назве вёскі: «Нянькаво» (не беручы да галавы тое, што на дарожным паказальніку друкаванымі літарамі было напісана «Нянькава»). Сякеру тут называлі «сакера». Яечню пяклі не на патэльні, а на «апаніве». Свінням давалі (дый сабе на першае варылі) не бацвінне, а «гічане» (тое самае лісце буракоў)...

Пазней супрацоўніца Інстытута літоўскай этнаграфіі Альма Лапінскене паведаміла, што ёсць старое літоўскае слова «гічаі» ў значэнні «сцяблінкі»!

Усе нянькоўцы мелі мянушкі. На Казыраў казалі «Штукары», на Лазоўскіх — «Чубаке», на Каратаеў — «Слуцкія», на Іванчыкаў — «Гаспадары». Мой дзед Зміцер называўся «Ласка́вы» (загэтым мы ўсе былі «Ласка́выя»). Былі яшчэ «Бульбік», «Блейбік», «Шчодрык», былі «Кілішкі», «Кубэркі», «Прыставы», «Ладэсікі», «Савэркі»...

І ў мяне хутка з'явілася мянушка, якую я вельмі не любіў і саромеўся, але падзецца ад яе нікуды не мог, бо «нарадзіў» яе сам, насмяшыўшы ўсю вёску.

Справа была такая: вечарам, нагуляўшыся, мы стаялі на сяле, чакаючы кароў. Статак гналі праз вёску, і кожная гаспадыня запыняла сваю карову, каля ног таўкліся дзеці, чакаючы сырадою. Я быў толькі што прыехаўшы з вайсковага гарадка (дзе гаварылі па-руску) і яшчэ не ўмеў гаварыць па-нянькоўску, таму, калі каровы ішлі міма нас, гучна запытаўся ў пастуха: «Мальчік, куда телёнка гоніш?»

Гэта была фатальная фраза. Пастух Грышачка быў не хлопчыкам, а старым ужо чалавекам, — дарма што маленькага росту. А тое стварэнне, якое я назваў «телёнком», была ягоная маленькая, бязрогая карова.

Нянькоўскія дзеці такога цырку не маглі забыцца вельмі доўга. Кожны хлопец, ад малога да вялікага, на працягу цэлага месяца пры сустрэчы з'едліва пытаўся спачувальным тонам: «Мальчык, ты куды цялёнка гоніш?»Потым гэта доўгая фраза надакучыла, і для мяне мянушкай засталося адно смешна-гарадское слова «цялёнак». Бо дзіця каровы нянькоўцы называлі «цяля», і ніяк інакш.

* * *

Ілюстрацыю да гэтага мемуара зрабіў вядомы беларускі мастак з Себежа родам, які жыве ў Краснагорску пад Масквой і належыць да айцоў—заснавальнікаў пецярбургскай мастацкай суполкі «Міцькі». Мянушка яго Мітрыч, а сапраўднае імя — Дзімітрый Драздзецкі.

Санкт-Пецярбург



REUTERS

**У катэджным пасёлку каля вёскі Агалатава, прыкладна за 20 км ад Санкт-Пецярбурга, адбылася цырымонія адкрыцця бюста прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна ў вобразе рымскага імператара. Ініцыятарам стварэння помніка выступіла гарадское казацкае таварыства Санкт-Пецярбурга «Ірбіс». На думку атамана таварыства Андрэя Палякова, якога цытуе Deutsche Welle, «у гэтым вобразе — сімвал нашай расійскай дэмакратыі». Бюст з'явіўся на прыватным падворку атамана, таму ніякіх узгадненняў на яго ўсталяванне не спатрэбілася.**



AFP/SCANPIX

**Дзяўчынай года, па версіі Playboy, стала 28-гадовая мадэль Дані Мазерс. Па традыцыі цырымонія, на якой была абвешчаная дзяўчына года (Playmate of the year), прайшла ў маёнтку заснавальніка і ўладальніка часопіса 88-гадовага Х'ю Хэфнера. У якасці прыза яна атрымала чэк на 100 тысяч даляраў.**



НАСТАСЯ ХРАПОВІЧ

**15 мая ў культурнай пляцоўцы Studio 67 Паліна Рэспубліка дала апошні, перад адпачынкам, канцэрт. Спявачка пацешыла песнямі з новага альбома «Бясконцы красавік», а таксама праспявала свае хіты.**



BIGFISHESOFTHEWORLD.BLOGSPOT.COM/

**Амерыканцы вылавілі першую ў свеце цеплакроўную рыбу. Навукоўцы замералі тэмпературу цела опаха звычайнага (Lampris guttatus), таксама вядомага як месячная рыба. Рыба аказалася на 5°С цяплейшай за асяроддзе, пішуць у часопісе Science. Дагэтуль былі вядомыя асобныя віды рыб, што падтрымліваюць больш высокую тэмпературу толькі ў цягліцах падчас палявання.**



## Анекдоты і жарты

* * *

Я спецыяльна нарадзіўся летам, каб на мой дзень нараджэння замест торта быў шашлык.

* * *

Цэлую здымачную групу можна размясціць у салоне БелАЗа ў якасці відэарэгістратара.

* * *

— Гэй, каханая, не хочаш праехацца па супермаркетах: затарыцца крупамі, паглядзець на ялавічыну, памацаць манга?..

* * *

Калі вам хтосьці кажа, што ўсім у свеце кіруе сусветная закуліса, спытайце яго, ці спрабаваў ён калі-небудзь вывезці тры сям'і на выхадныя за горад.

* * *

Бабуля гуляе з унукам трох гадоў у маі месяцы, а той у валёнках.

Суседкі пытаюцца:

— Баба Марыля, а чаго ў цябе ўнук у валёнках?

— А без валёнак не даганю!

* * *

Часта хочацца проста ўзяць і прылегчы на канапу, але ўспамінаеш, што ўжо ляжыш.

* * *

– Нікуды я з табой не пайду!

– А чаго тады прыбралася і нафарбавалася?

– А каб ты бачыў, якая прыгажуня з табой нікуды не пайшла.

* * *

Пасталеў — гэта калі сам ведаеш, якую таблетку табе выпіць.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Наглая смерць.** У вёсцы Осава, Докшыцкай воласці, атруціўся грыбамі-смарчкамі хлопчык 7 гадкоў, Антось Мядзведскі. Штогод вясной бываюць гэткія здарэнні атручання смарчкамі, а бываюць дзеля таго, што гэтыя грыбы на слюзявіне сваёй маюць атрутныя жывукі і дзеля гэтага смарчкі перад тым, як ужываць іх на яду, трэба добра і па колькі разоў абварваць варам.

**«НН». №19. 1915.**

**Вайна з палякамі.** Улады атакуюць Саюз палякаў у Беларусі. СПБ абуранае паклёпніцкім фільмам на БТ. «Гэта распальванне варожасці», — кажуць палякі. Дыпламатычны мардабой паміж Мінскам і Варшавай набірае абароты. Старшыня СПБ Анжаліка Борыс: «Іншага з'езда не будзе. Будзем звяртацца да Еўрасаюза».

**«НН». №19. 2005.**


**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, аднаўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**





8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7001. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 19.05.2015.
Замова №1843.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

9 771819 161008 15019